ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 23 (2373) 9 чэрвеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

*РАЗМОВА З ПЕРАКЛАДЧЫКАМ*

## ПАМІЖ БОГАМ І Д'ЯБЛАМ, або ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД, АДДАДЗЕНЫХ "ФАЎСТУ"

-- Я Германіі ніколі не бачыў, я баюся туды ехаць, -- сказаў у самым пачатку нашай размовы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, цудоўны перакладчык Гётэ, Рыльке, Мана, пісьменнік Васіль СЁМУХА. -- У мяне наогул вельмі своеасаблівыя адносіны да Германіі. З аднаго боку, менавіта адтуль у маё жыццё прыйшло самае вялікае зло, з другога, з нямецкай літаратуры ў мяне склаўся свой вельмі дарагі для мяне вобраз гэтай краіны, якую я люблю не менш, чым Беларусь. Раней я страшна марыў там пабываць, але мяне туды не пускалі, нават пасля таго, як я пераклаў "Фаўста" і немцы запрасілі мяне прыехаць. А цяпер, калі пускаюць, мне самому ўжо не хочацца ехаць. Баюся разбурыць вобраз... Уяўленне аб людзях і жыцці, што склалася ў галаве, ніколі цалкам не адпавядае сапраўднасці... Я добра ведаю, што Германія зусім не такая, якой яна падаецца мне, тая, што ў душы, -- даражэйшая, і калі зараз гэты вобраз разбурыцца, дык што мне застанецца?

-- Але як адбылося, што краіна, якая прынесла зло і боль, стала такой дарагой? І чаму наогул вы сталі вывучаць менавіта нямецкую мову?

-- З-за гэтай бяды і пачаў. Калі падчас вайны я страціў бацькоў і застаўся адзін, захацелася высветліць для сябе, што адбылося, знайсці прычыны трагедыі. Разумееце, калі прыходзяць і забіваюць самых дарагіх людзей тыя, перад кім у цябе няма ніякай віны, натуральна ўзнікае пытанне: за што?

-- І вы знайшлі адказ на гэта пытанне?

-- Не. Гэта проста немагчыма. Чыста рацыянальна можна ўсё растлумачыць, але я шукаў адказу не на ўзроўні розуму, а адказу эмацыянальнага, адказу душы, у якім, мабыць, больш ісціны, чым у тым, што мы сфармулюем мозгам, дабавіўшы сюды палітыку, нацыянальныя рысы і нечыя інтарэсы. Гэтага адказу я не знайшоў.

-- А як з'явіліся вашы пераклады?

-- Праз гэтую самую цікавасць да краіны, да мовы. Яна страшна прыгожая, незвычайна багатая, настолькі багатая, што яе і вывучыць да канца немагчыма. Гэта толькі Шцірліц у кіно так лёгка ўпраўляецца з усім, і з мовай таксама...

-- Дык як жа тады перакладаць?

-- А ўвогуле нічога немагчыма перакласці!

-- Тады што мы чытаем?!

-- Мы чытаем узнаўленне нейкай тэмы сродкамі іншай мовы, нейкай ідэі пэўнага мастацкага твора, вельмі прыблізнае ў параўнанні з арыгіналам. Так, перакласці немагчыма з-за таго, што не проста ўвесь лад адной мовы не адпавядае ладу другой мовы, нават аб'ём, значэнне канкрэтнага слова і то не супадае.

-- Тады які пераклад, на вашу думку, лепшы: калі, напрыклад, паэт перакладае паэта, ці проста добры літаратар бярэцца данесці да чытача твор, напісаны на іншай мове?

-- Лепшы той пераклад, які лепш атрымліваецца. Таго ж "Фаўста" пераклаў Барыс Пастэрнак, і гэты пераклад вельмі цэніцца. Але ж ён далёка не дасканалы, хаця і вельмі паэтычны. А ёсць пераклад "Фаўста", зроблены Халадкоўскім, які быў ці то біёлагам, ці то археолагам, але ніяк не паэтам. Так, у яго перакладзе няма, можа быць, такіх ужо паэтычных узлётаў, але ён мае каштоўнасці: ён бліжэйшы да арыгінала, больш дакладна перадае змест твора. І вырашыць, што лепшае, а што горшае, проста немагчыма. А вазьміце, напрыклад, пераклад Жукоўскім "Лясного цара" Шылера.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПЕРШЫМ І ДОБРА, І ЦЯЖКА



Цешыць вока зямля, якая з такой любоўю апрацавана фермерамі з Міншчыны Віктарам ТАРАСЕНКАМ і Аляксеем ГЕРАСІМОВІЧАМ.

(Заканчэнне фотарэпартажу "Першым і добра, і цяжка" змешчана на 4-й стар.).

## ПРЭТЭНДЭНТЫ ВЫЗНАЧАНЫ

**31 мая Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала ў якасці афіцыйных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта краіны шасцярых: Аляксандра Дубко, Вячаслава Кебіча, Аляксандра Лукашэнку, Васіля Новікава, Зянона Пазьняка, Станіслава Шушкевіча. Вось вынікі "падпіснога" этапу кандыдатаў у прэзідэнты:**

**Аляксандр ДУБКО -- пададзена — 146 957 подпісаў;**
**прызнаны сапраўднымі — 116 693 подпісы;**
**Вячаслаў КЕБІЧ -- пададзена — 411 251;**
**прызнаны сапраўднымі — 371 967;**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА — пададзена — 176 687;**
**прызнана сапраўднымі — 156 391;**
**Васіль НОВІКАЎ — пададзена — 199 526;**
**прызнана сапраўднымі — 183 836;**
**Зянон ПАЗЬНЯК — пададзена — 232 140;**
**прызнана сапраўднымі — 216 855;**
**Станіслаў ШУШКЕВІЧ — пададзена — 131 205;**
**прызнана сапраўднымі — 123 552.**

НЕВЯСЁЛАЯ СПОВЕДЗЬ ПЕРШАПРАХОДЦА

## КУДЫ ПАДЗЕЦЦА МІКАЛАЮ ЛІСКАЎЦУ

Выпадковая сустрэча з гэтым чалавекам на мінскім вакзале, адкуль ён зноў вяртаўся з Беларусі ў Казахстан, нагадала мне, што сёлета якраз юбілей славутай хрушчоўскай цаліннай эпапеі. Людзі старэйшага пакалення добра памятаюць яе. Пачалося ўсё ў 1954 годзе. Гэта тады сотні тысяч юнакоў і дзяўчат з усіх рэспублік былога СССР па "зову беспокойного комсомольского сердца" ехалі далёка ад роднага дому асвойваць неабсяжныя прасторы не кранутых раней чалавекам земляў.

Нягледзячы на тое, што кампанія праводзілася як інтэрнацыянальная, кожная рэспубліка мела ў Казахстане свой раён. Ён мог ахопліваць па тэрыторыі нават некалькі абласцей. Беларускія механізатары (галоўная тады спецыяльнасць цалиннікаў) засяляліся ў асноўным у Кустанайскай, Какчатаўскай, Цалінаградскай і Тургайскай абласцях. Той рэгіён з цягам часу так і сталі называць беларускай калоніяй.

Ніхто не прымушаў прыезджых заставацца ў Казахстане назаўжды, але многія менавіта цалінныя землі абралі той запаветнай зямлёй, дзе ім хацелася застацца назаўсёды. Чаму?

Мікалай Ліскавец, былы механізатар, першапраходца цалінных земляў, патлумачыў:

-- Я тут выдзеліў бы два моманты. Па-першае, мы, моладзь, цвёрда верылі ў адзінства вялікай краіны, дружбу паміж усімі народамі, была ўпэўненасць у тым, што, як пяецца ў песні, "наш адрес не дом и не улица, наш адрес Советский Союз" і не мае значэння, дзе жыць, мы ж адна сям'я. Па-другое, верх браў гаспадарскі разлік, ці, лепш сказаць, асабісты, практычны падыход. Ну што я пакінуў на сваёй Гродзеншчыне ў вёсцы Засценак? На той час трыццаць дзве соткі зямлі на шэсць душ сям'і. Зямлі неўрадлівай, пясчанікаў. У калгасе атрымоўвалі капейкі. Жыць было цяжка. І раптам на цаліне мне прапаноўваюць кавалак такой зямлі, што яе хоць на булку намазвай, добра родзіць і без угнаенняў. З'явіліся ўмовы для будаўніцтва ўласнага дома, набыцця гаспадаркі, хочаш -- курэй, гусей, качак, хочаш -- свіней, кароў разводзь, а можаш і ўсё разам. Машынамі, амаль задарма, прывозілі на падворак зерне. Хто ж ад такога жыцця адмовіцца! Таму і застаўся, склалася сям'я: жонка працавала дыспетчарам, нарадзіліся два сыны.

Асваенне цаліны некалі лічылася працоўным подзвігам. На ўвесь свет трубілі, што зможам забяспечыць сябе хлебам. Але нешта не атрымалася. Яшчэ пры Хрушчове пачалі купляць за мяжой зерне.

-- Хваліцца і сапраўды мы ўмелі, -- гаворыць Мікалай Сямёнавіч, -- пышна, як кажуць, з помпай адзначалі і вялікія, і малыя юбілеі: год, пяць, дзесяць, трыццаць. На год асваення цаліны мяне персанальна запрасілі ў Рузаеўку, раён у Какчатаўскай вобласці, і ва ўрачыстай абстаноўцы ўручылі гадзіннік "Победа", які і сёння цікае. Абсыпалі падарункамі на кожны юбілей, дзякавалі за добрую працу трактарыстам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ

## ВЫКАНКОМ ЗАНЕПАКОЕНЫ

Выканком Партыі народнай згоды (ПНЗ) выступіў з заявай, у якой выказаў занепакоенасць фактам масавага анулявання подпісаў, сабраных ініцыятыўнай групай у падтрымку прэтэндэнта ў кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду Генадзя Карпенкі. Па адному толькі Мінску, адзначаецца ў заяве, забракавана 7 958 подпісаў з 51,5 тысячы агульнай колькасці (асаблівa гэта датычыцць Фрунзенскага і Савецкага раёнаў). Выканком ПНЗ ставіць пад сумненне заключэнні раённых выбарчых камісій, лічачы, што яны не маюць доказаў. У сувязі з гэтым выканком ПНЗ настойвае перад Цэнтральнай камісіяй на аб'ектыўнай даправерцы забракаваных лістоў і подпісаў.

Такую ж занепакоенасць і трывогу выказала і Грамадская кантрольная камісія. ГКК лічыць, што такія дзеянні ўладаў накіраваны на тое, каб пазбавіць Генадзя Карпенку магчымасці ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі за прэзідэнцкае крэсла.

ПРЫСУД

## САСТАВУ ЗЛАЧЫНСТВА НЯМА

У дзеяннях Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча, які падпісаў Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі, няма саставу злачынства.

Да такога заключэння прыйшла пракуратура рэспублікі, што разглядала па патрабаванню палітычных партый, апазіцыйных ураду, адпаведнасць некаторых артыкулаў дакументаў Канстытуцыі Беларусі.

НА РАЗВІЦЦЁ ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ

## ПРАЕКТ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Сусветны банк аб'явіў аб прадастаўленні Рэспубліцы Беларусь крэдыту на суму 41,9 мільёна долараў на развіццё яе лясной гаспадаркі. "Узнаўленне эканомікі ў Беларусі і іншых суседніх краінах былога СССР прывядзе да ўзрастання попыту на прадукцыю з драўніны", -- заявіў адказны за рэалізацыю праекта з боку Сусветнага банка Брайан Берман.

Пазыка прадастаўлена банкам на 15 гадоў.

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ




Адзенне, абутак, мэбля, харчовыя тавары і многае іншае было прадстаўлена на міжнароднай выстаўцы "Кансумэкспа-94", якая прайшла ў "Мінскэкспа". Большасць экспанатаў належала 250 польскім фірмам. Многія з іх прымалі ўдзел у такой выстаўцы ўпершыню. Дзелавыя кантакты прадпрымальнікаў Беларусі і Польшчы пастаянна растуць. З 1 300 сумесных прадпрыемстваў 40 працэнтаў створаны менавіта пры ўдзеле нашых бліжэйшых суседзяў.

НА ЗДЫМКУ: ля аднаго са стэндаў выстаўкі.

ПРАЗ 50 ГОД

## БРЫТАНСКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ ВЕТЭРАНАМ

Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джон Эверард і брытанскі ваенны аташэ ў Маскве генерал-лейтэнант авіяцыі Уілкінсан уручылі грамадзянам Беларусі, ветэранам другой сусветнай вайны, якія служылі ў польскай арміі пад англійскім камандаваннем, Уладзіміру Палто і Івану Буглаку брытанскія ўзнагароды.

Абодва атрымалі Зорку за баявыя дзеянні 1939--1945 гадоў, Італьянскую зорку, медаль за ваенную службу ў 1939--1945 гадах, медаль за абарону Айчыны.

ЭКАЛОГІЯ




Міліцэйскія машыны з надпісам "Экалагічная" добра вядомыя беларускім аўтамабілістам. Вось ужо два гады па ініцыятыве райвыканкомаў і райаддзелаў Унутраных спраў у Мінску створаны падраздзяленні міліцэйскіх эколагаў. Асноўны іх клопат -- зрабіць наша паветра чысцейшым. Два гады, якія дзейнічае служба, -- тэрмін невялікі. Але, калі агледзецца вакол, мы ўбачым змены да лепшага. Не дарма ж Мінск лічыцца адной з самых чыстых сталіц СНД.

НА ЗДЫМКУ: рухомая экалагічная лабараторыя на адной з трас пры ўездзе ў горад.

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

## НОВЫЯ ПАСОЛЬСТВЫ

Прэзідыум урада рэспублікі па прадстаўленню Міністэрства замежных спраў прыняў рашэнне аб адкрыцці новых пасольстваў Рэспублікі Беларусь у блізкім і далёкім замежжы.

Пасольствы Беларусі адкрыюцца ў Азербайджанскай Рэспубліцы, Рэспубліцы Арменія, Рэспубліцы Казахстан, у Туркменістане, а таксама ў Рэспубліцы Індыя, Турэцкай Рэспубліцы.

ВАКОЛ ЧАЭС

## ХОЦЬ КАНЕЦ СВЕТУ

У 14 мільярдаў долараў ацэньвае прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук праграму па закрыццю Чарнобыльскай АЭС."Такіх грошай няма, і таму мы будзем ажыццяўляць развіццё атамнай энергетыкі, чаго б гэта ні каштавала", -- адзначыў ён, выступаючы перад калектывам ЧАЭС.

Закранаючы далейшы лёс Чарнобыльскай станцыі, Леанід Краўчук заявіў, што "яна будзе працягваць працаваць. Больш таго, ЧАЭС цяпер функцыяніруе надзейна". Падкрэсліўшы, што альтэрнатывы атамнай энергетыкі цяпер няма, ён сказаў: "Мы будзем і надалей будаваць атамныя станцыі".

ПРАЕКТ ДЛЯ СЛУЦКА

## ПРАВАСЛАЎНЫ КОМПЛЕКС

Група мінскіх архітэктараў распрацавала праект праваслаўнага духоўнага комплексу. Збудаванне, якое плануецца ўзвесці ў Слуцку, уключае ў сябе нядзельную школу, хрысціянскую царкву, званіцу, Дом міласэрнасці. Ключавое месца зойме храм Праабражэння Гасподняга.

Першая чарга будаўніцтва комплексу прадугледжвае і ўзвядзенне помніка святой Соф'і Слуцкай, якая праславілася сваёй праведнасцю.

ВЫМІРАЕМ

## РАДЗЕЮЦЬ ГАРАДЫ І ВЁСКІ

Насельніцтва Краснапольскага і Слаўгарадскага раёнаў зменшылася за апошнія восем год больш чым напалову. Кожны трэці пакінуў Чэрыкаўскі, Касцюковіцкі і Крычаўскі раёны. Прыкметна парадзелі клімавіцкія і быхаўскія населеныя пункты. Вінавата ў гэтым не толькі чарнобыльская катастрофа, што прымусіла людзей перасяліцца на "чыстыя" тэрыторыі. Толькі за 1993 год у вобласці нарадзілася 14 310, а памерла 17 197 чалавек.

ПАЦВЕРДЖАНА АФІЦЫЙНА

## РАКЕТЫ НЕ НАЦЭЛЕНЫ НА БЕЛАРУСЬ

Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША звярнулася ў Савет нацыянальнай бяспекі гэтай краіны з просьбай пацвердзіць, што з гэтага часу стратэгічныя ракеты ЗША не нацэлены на Беларусь.

Дзяржаўны дэпартамент пацвердзіў пасольству, што спынена нацэльванне ўсіх амерыканскіх стратэгічных ракет, у тым ліку і на Беларусь, з тэрыторыі якой цяпер выводзяцца стратэгічныя ракеты Расіі.

АДРАДЖЭННЕ ДРУЖБЫ

## ДНІ КУЛЬТУРЫ ЛАТВІІ

З ускладання кветак да помніка маці Яна Райніса на Старасямёнаўскіх могілках пачаліся Дні культуры Латвіі ў Віцебску.

Ідэя іх правядзення належыць віцэ-консулу гэтай прыбалтыйскай рэспублікі Арманду Крузе, які да нядаўняга пераходу на дыпламатычную работу многа гадоў пражыў тут жа, у Віцебску, і на сабе, на сваёй "міжнароднай" сям'і зведаў дабратворнасць узаемаразумення латышоў і беларусаў. Дружба паміж двума народамі не памерла, упэўнены віцэ-консул, яна толькі мае патрэбу ў аднаўленні традыцыйных сувязей, чаму і павінны паслужыць Дні культуры Латвіі, якія прадоўжыліся да 4 чэрвеня.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРАМАДСКАЯ кантрольная камісія выступіла з заявай, у якой адзначае, што на пачатку прэзідэнцкай кампаніі выявіліся антыдэмакратычнасць выканаўчай улады і прамыя парушэнні Закона аб выбарах прэзідэнта, а таксама правоў чалавека органамі выканаўчай улады, пачынаючы з Савета Міністраў Беларусі. Камісія заявіла рашучы пратэст і пакінула за сабой права звярнуцца да міжнароднай супольнасці.

РАШЭННЕМ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі ў склад Нацыянальнага банка рэспублікі ўведзены намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Іван Бамбіза і першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Міхаіл Мясніковіч. Такі крок не адпавядае міжнароднай практыцы.

ЭКАНАМІЧНЫЯ выгады аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі занадта перабольшаны, а фактычнае здзяйсненне грашовага саюза з цягам часу будзе ўсё ў меншай ступені магчымым і абгрунтаваным з эканамічнага пункту погляду і ўсё больш дарагім. Такую выснову зрабілі эксперты Міжнароднага валютнага фонду, місія якога нядаўна закончыла сваю работу ў Мінску.

ПАВОДЛЕ паведамленняў Беларускага камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, больш за 1 мільён салдат мінулай вайны, што загінулі на тэрыторыі нашай рэспублікі, дасюль яшчэ не пахаваны.

ЯПОНСКІЯ медыкі лічаць, што для нас, беларусаў, ужо няма сэнсу перасяляцца далей ад небяспечна забруджанай зоны. Усё, што можна было атрымаць пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС, мы ўжо маем. Найперш радыенукліды ёду, якімі людзі "запасліся" на ўсё астатняе жыццё. Урачам застаецца толькі праводзіць штогод медыцынскія нагляды і выяўляць хваробы на ранніх стадыях.

У ШКОЛАХ Беларусі прагучаў традыцыйны апошні званок. Паводле даных Дзяржаўнага камітэта па статыстыцы, сёлета больш за 200 тысяч вучняў 9-х і 11-х класаў -- выпускнікі. Школьныя дзверы за імі зачыняцца, наперадзе -- няпэўная будучыня.

ТАК ЗВАНЫ народны рух Беларусі пачаў у Віцебску антыбеларускую акцыю -- збор подпісаў за правядзенне ў горадзе рэферэндуму: прызнаць рускую мову дзяржаўнай нароўні з беларускай. Благаславілі НРБ-оўцаў на такі крок аж 52 дэпутаты Віцебскага гарсавета.

НА КАНЕЦ 1993 года ў насельніцтва Беларусі мелася 1 мільён 300 тысяч прыватнага легкавога транспарту. Гэтая лічба штогод павялічваецца на 7 працэнтаў. Цяпер кожны сёмы жыхар -- на ўласнай машыне. У асноўным аўтамабілі вытворчасці СНГ. Штодня рэгіструецца 240--270 машын замежных марак.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ"

У № 21 "Голасу Радзімы" апублікаваны матэрыял "Нам бы ды іх умовы".

Не маючы ніякіх прэтэнзій да таго, што тычыцца цяжкасцей маёй працы ў нейрахірургіі і складаных абставін ва ўсёй нашай сучаснай медыцыне, хацеў бы ўсё ж звярнуць увагу на некалькі прыкрых для мяне момантаў. Тычацца яны перш за ўсё праблем кампетэнтнасці і характарыстыкі прафесійнага ўзроўню супрацоўнікаў Міністэрства аховы здароўя. Лічу, што тут вольна перададзены мае думкі і тым самым скажона мая пазіцыя. А яна некалькі адметная ад той, што выкладзена ў матэрыяле. Пра гэта і хачу давесці да ведама рэдакцыі і чытачоў. Таму спадзяюся, што рэдакцыя "Голасу Радзімы" надрукуе мой ліст.

З павагай

Ф. АЛЯШКЕВІЧ,
прафесар, член-карэспандэнт АН Беларусі.

# КУДЫ ПАДЗЕЦЦА МІКАЛАЮ ЛІСКАЎЦУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Што тычыцца абяцання "заваліць" хлебам усю краіну за кошт асваення цалінных земляў і нават забяспечыць зернем увесь сацыялістычны лагер... Не ведаю, ці можна было б накарміць увесь сацыялістычны лагер, але факт, што краіна ў вялікай колькасці спажывала цалінны хлеб.

Вы можаце запярэчыць: есці то елі, але ж працягвалі купляць за мяжой збожжа. Сапраўды, куплялі. І тут, мне здаецца, поўнасцю вінавата наша безгаспадарчасць. Хто можа сказаць, колькі хлеба гінула ў час уборкі? Тыя, каму даводзілася бываць у Казахстане, бачылі і горы зерня, што прападала, не вывозілася, заставалася пад адкрытым небам на зіму, і залацістыя дарогі, насыпаныя зернем, што цягнуліся на многія кіламетры. Хто іх улічваў, хто адказваў за гэтыя страты? Ніхто. А каб усё гэта не гінула, то не прыйшлося б увозіць хлеб з-за мяжы.

Мы з Мікалаем Ліскаўцом вядзём гутарку ў асноўным наконт хлеба. І сапраўды: на цаліне ён галоўнае. Але ж мала гаворыцца пра тое, што прыезджыя ў многім змянілі жыццё мясцовых качэўнікаў.

-- Што ўяўлялі сабой цалінныя землі? -- чую ад Мікалая Сямёнавіча. -- Гэта былі бяскрайнія маланаселеныя стэпы, па якіх качавалі жывёлаводы з атарамі авечак, табунамі коней, з вярблюдамі. Жылі казахі вольна, па свайму спрадвечнаму ўкладу, але бедна, без элементарных зручнасцей. Сустрэцца з доктарам недзе на качэўі было вялікай падзеяй. Тыднямі не елі хлеба. Памятаю, як майму знаёмаму механізатару, што прыехаў з Расіі, качэўнік аддаў выдатны кажух только за... бяспечную брытву. Простую самапіску можна было памяняць на шапку з аўчыны. Здзівіла непісьменнасць казахаў. На 12 качэўнікаў только адзін мог чытаць і пісаць. Мы будаваліся, узнікалі пасёлкі. І сюды з цягам часу сталі прыязджаць дзеці качэўнікаў: вучыліся ў школах, асвойвалі справу механізатараў.

На жаль, уваход у цывілізацыю карэннага насельніцтва меў і адмоўны бок. У пасёлкі і гарады ехала моладзь і ўжо не вярталася назад. А гэта значыць, што не было каму падтрымаць спрадвечныя традыцыі жывёлаводаў-качэўнікаў. Жывёлагадоўля прыйшла ў заняпад. Гэтаму спрыялі і мы, перасяленцы. Нас заахвочвалі як мага больш араць стэпаў. Але ж мы часам пшаніцу заворвалі, бо не паспявалі ўбіраць. Балюча было глядзець на ўсё гэта: хіба хлеб можна так знішчаць?! І качэўнікі-казахі пакутавалі, бо якія б вялікія ні былі стэпы, але ёсць і ў іх мяжа, скарачаліся пашы.

Карцела задаць традыцыйныя пытанні Ліскаўцу: "Ці сумуеце па радзіме? Ці падтрымліваеце з ёю сувязь?". І, вядома, атрымаць такія ж стандартныя і традыцыйныя адказы: "А як жа, сумую. Сувязь падтрымліваю". На самай жа справе адказы пачуў іншыя.

-- Сувязь з радзімай у беларусаў у Казахстане можна параўнаць з гумай, якая з кожным разам, калі яе расцягваць, становіцца ўсё танчэйшай і танчэйшай, -- казаў Мікалай Ліскавец. -- Многія гады на нас уздзейнічала савецкае выхаванне: дзе б ні жыў у СССР, паўсюль, маўляў, твой дом, твая радзіма, размаўлялі на "языке общегосударственном, русском".

-- Няўжо ў душы нічога не засталося ў вас, не адчуваеце, што вы беларус?

-- Ад сваёй прыналежнасці да нацыі, да народа я не адмаўляўся. Здаралася, што беларусы ўмелі, хоць і зрэдку, нагадаць у Казахстане, хто мы такія і адкуль.

Аднойчы рускія наладзілі масленіцу. Потым казахі ўрачыстую сустрэчу вясны арганізавалі. Сабраліся беларусы, сталі раіцца, няўжо ў нас сваіх святаў няма, няўжо мы забыліся пра ўсё? Узялі ды й арганізавалі сваё Купалле. І як арганізавалі! На здзіўленне ўсім.

Той-сёй на першым часе выпісваў і беларускую газету з Мінска, і кніжкі свае, здаралася, з водпуску прывозіў. Але ж гэтага вельмі мала, каб ведаць пра ўсе падзеі на радзіме, захоўваць свае традыцыі, мову, падтрымліваць іх.

Старэйшае пакаленне яшчэ помніць гэтыя традыцыі, а што будзе з нашымі дзецьмі? Як прымусіць іх размаўляць па-беларуску, калі многія і ў Беларусі ніколі не былі, і ў школе вучацца рускай, і на вуліцы паміж сабой размаўляюць па-руску. Не зачыніш жа іх дома, не ізалюеш ад усяго пасёлка. Вядома, слову-другому навучыш. І застаецца яно ў дзіцячым лексіконе як дэкаратыўнае, хатняе.

Але цяпер некалі ўладкаванае жыццё скончылася. Сітуацыя змянілася з распадам СССР. Казахстан стаў будаваць сваю дзяржаву. Узніклі паміж былымі рэспублікамі граніцы. Межы, на думку Мікалая Сямёнавіча, утварыліся і ўнутры самога Казахстана. Ствараюцца ўмовы, калі далейшае пражыванне іншых народнасцей на гэтай зямлі стала немагчымым. Асабліва цяжка так званаму рускамоўнаму насельніцтву. Тут ідзе вайна.

Але, у адрозненне ад Малдавіі і Закаўказзя, вайна не крывапралітная, а хутчэй псіхалагічная. Гэта добра бачна на прыкладзе сям'і таго ж Мікалая Ліскаўца.

Многія гады яго жонка Алена працавала дыспетчарам на элеватары. Мела і падзякі, і ўзнагароды. Ёй бы яшчэ працаваць і працаваць, але раптам аб'яўляюць аб звальненні. Матывацыя: няма куды дзець маладых спецыялістаў. Хаця, па праўдзе кажучы, месцаў хапае для ўсіх.

Гады два назад Мікалаю Ліскаўцу, лепшаму механізатару раёна, абяцалі даць новы трактар. І вось летась далі... развалюху, такую тэхніку, якая больш знаходзіцца на рамонце, чым у полі.

Самая ж вялікая праблема з уладкаваннем сыноў. І аднаму, і другому прапанавалі звольніцца з навуковага інстытута і пашукаць іншае месца, бо Ліскаўцы не ведаюць казахскай мовы. Звольніцца і пашукаць -- значыць застацца беспрацоўнымі.

Такая палітыка ўладаў выклікала масавы адток рускамоўнага насельніцтва з Казахстана. Збіраецца пакінуць Казахстан і Мікалай Сямёнавіч. Не адзін, а з усім сваім родам, бо з сем'ямі сыноў Ліскаўцоў ужо стала адзінаццаць душ.

Куды ехаць? Вядома, на радзіму. Вось і накіраваўся сёлета Ліскавец-старэйшы як бы ў разведку. Паехаў у свой Воранаўскі раён. Бацькоўскай хаты не знайшоў, даўно прадалі, перавезлі ў іншую вёску. Сустрэлі яго ў былым калгасе не надта ветліва. У просьбе дапамагчы пабудавацца фактычна адмовілі: вы і ваша жонка -- пенсіянеры, сыны -- навуковыя супрацоўнікі, для іх у нас няма работы. Так што ніякай карысці калгасу не будзе.

Пабываў і ў Гродне, і ў Мінску і нідзе нічога не дамогся. Праўда, паспачувалі, нават абнадзеілі: "Пацярпіце год-другі, можа што памяняецца".

Абяцанага чакаць доўга. Ды пры такім беспрацоўі можна чакаць усё жыццё.

-- Няўжо ў нас, на Беларусі, не елі той цалінны хлеб, які я вырошчваў? -- здзіўляецца Мікалай Сямёнавіч. -- Чаму я стаў лішнім і чужым на сваёй радзіме? Сорак гадоў я працаваў і на яе, а мяне сёння ўпікаюць, што рабіў на Казахстан. Раяць, каб там і застаўся. А калі чакаць? -- з горыччу кажа Мікалай Ліскавец. -- Да мяне і жонкі старасць падступае. А сынам і іх сем'ям, напэўна, трэба яшчэ паспець і беларускую мову вывучыць, а то атрымаецца, як у Казахстане: на работу не возьмуць.

Адным словам, невясёлы юбілей атрымаўся ў нашага земляка. Ды ці будзе гэта свята ў Мікалая Ліскаўца, як і ў тысяч беларусаў, што адпраўляліся многа гадоў назад асвойваць цалінныя землі?

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

# АСОБА СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ ЛУЧЫЦЬ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

У Доме літаратара 23 мая прайшлі першыя духоўна-асветніцкія чытанні святой Ефрасінні Полацкай, арганізаваныя дабрачынным фондам святой, які ўзначальвае пісьменніца Валянціна Коўтун.

Чытанні пачаліся з малітвы за Ефрасінню Полацкую і за народ Беларусі. Малітва, дарэчы, гучала на беларускай мове.

На чытаннях выступалі дзеячы беларускай культуры, святары, госці з Польшчы, Балгарыі, Амерыкі, міністр адукацыі Беларусі Віктар Гайсёнак, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Айцец Ігар зазначыў, што Ефрасіння Полацкая, як глыбока веруючая жанчына, блізкая да тых жанчын, што на пачатку тысячагоддзя засталіся ля крыжа гасподня. У часы зняверання менавіта жанчыны прынялі і вытрымалі асноўны ўдар вайны з царквою і выратавалі яе.

Сярод выступаючых былі Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель. Янка Запруднік перадаў прысутным прывітанне ад айца Мікалая, кіраўніка Беларускай аўтакефальнай царквы, які жыве ў Канадзе.

Дарэчы, у Мінску будуецца царква Ефрасінні Полацкай. Праўда, на гэтую справу нестае грошай. У ЗША даўно дзейнічаюць храмы беларускай святой. Там яе асоба, па словах нашых землякоў, вельмі шануецца.

Вітаўт Кіпель асабліва падкрэсліў, што імя Ефрасінні Полацкай здольнае лучыць беларусаў ва ўсім свеце, бо яе прызнае святой як каталіцкая, так і праваслаўная царква.

Пісьменнік Уладзімір Арлоў нагадаў прысутным пра драматычны лёс крыжа Ефрасінні Полацкай. Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка паведаміў, што ёсць праваслаўны святар, які, па яго словах, мае пэўную інфармацыю аб фізічным існаванні крыжа святой Ефрасінні. Пётр Краўчанка запэўніў, што Міністэрства замежных спраў зробіць усё магчымае, каб нацыянальная святыня беларусаў была знойдзена і вернута на Радзіму.

Як паведаміла Валянціна Коўтун, у яе сабрана каля 45 дакладаў, прысвечаных Ефрасінні Полацкай. Фонд імя беларускай святой плануе выдаць іх і перадаць у жаночы манастыр, што ў Полацку. Працягнуцца духоўна-асветніцкія чытанні ў верасні, і яны будуць наладжвацца штогод -- увосень і ўвесну. У пачатку новага навучальнага года Фонд Ефрасінні Полацкай сумесна з Міністэрствам адукацыі збіраецца правесці ў школах Беларусі ўрок ушанавання памяці беларускай святой. Гэты крок звязаны з канцэпцыяй фонду, згодна з якой, шлях нацыі да культуры, незалежнасці неаддзельны ад асветы і адукацыі.

**Алена СПАСЮК.**

# УЛАДА І СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

Апошнія дні мая напалілі грамадскую атмасферу канфліктамі ўладных структур са сродкамі масавай інфармацыі. Першы камень у агарод газеты "Свабода" кінуў прэс-сакратар прэм'ер-міністра Беларусі Замяталін, які патрабаваў перагледзець адносіны дзяржавы з гэтым выданнем. Заява была зроблена праз некалькі дзён пасля таго, як "Свабода" прайграла чарговы судовы працэс урадаваму сакратару Г. Данілаву. У прэсе завіравалі страсці: адны выступалі "за", другія "супраць".

Да гэтага канфлікту дададзены быў іншы: Міністэрства культуры і друку анулявала пасведчанні на выданне газет "Навіны Беларускага народнага фронту "Адраджэньне" і "Выбар" (Віцебск). Паследавала заява дэпутатаў ад апазіцыі, у якой улады абвінавачваюцца ў наступленні на дэмакратычную прэсу. Аднак міністр культуры і друку А. Бутэвіч даказаў законнасць сваіх дзеянняў і папярэдзіў "Свабоду", што яе публікацыі пярэчаць некаторым палажэнням Закона аб друку.

Да гэтых страсцей далучыліся новыя. На Дзяржтэлерадыё закрылі "Беларускую маладзёжную", якая назаляла ўладам сваёй занадта вольнай пазіцыяй, а заадно прыкрылі і праграму "Крыніца". Усё гэта -- пад прэтэкстам рэарганізацыі.

**Рэакцыя на вышэйпададзеныя падзеі неадназначная. Відаць, гэта толькі пачатак. Што будзе далей? Які плён прынясе плюралізм думак і меркаванняў? Пабачым, у што выльецца беларуская дэмакратыя.**

# ДОКТАР ЛЁНЯ — ЗАЛАТЫЯ РУКІ



**Да Леаніда СЯНЬКО ідуць людзі, якім не ў стане дапамагчы традыцыйная медыцына. Яго метад лячэння — мануальная тэрапія. За кароткі час знаходжання ў Мінску у Л. Сянько з'явіліся ўдзячныя людзі, якіх ён пазбавіў ад цяжкіх захворванняў.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**





# ПЕРШЫМ І ДОБРА, І ЦЯЖКА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Якія гэта цудоўныя хлопцы -- Аляксей Герасімовіч і Віктар Тарасенка! Як яны любяць родную зямлю! Гэта тыя з першых беларусаў, хто адважыўся ўзяць яе ў свае рукі пасля бальшавіцкага прыгнёту і меціць з яе карысць не толькі для сябе, але і даць нешта з плёну рук сваіх людзям.

Зямлі ў іх небагата, усяго 15 гектараў на дзве сям'і. Працуюць на ёй двое -- Аляксей і Віктар. Іх жонкі настаўніцы. Работы мужчынам -- а ім, маладым, па 32 гады -- хапае. І толькі можна парадавацца, што яны ў такім узросце абзавяліся ўласнай гаспадаркай. Першыя іх поспехі абнадзейваюць. Сабраны добры ўраджай бульбы -- асноўнай культуры, морквы, капусты ды збожжавых -- ячменю, жыта.

Што ні кажы, а свая зямля -- гэта свая зямля. Яно відаць і па тым, як Віктар і Аляксей яе берагуць, з якім гонарам яны паказваюць сваё поле. Вось тут пасеяна ярына, тут пасаджана бульба, а тут будзе агародніна...

І руплівасць, вялікі клопат пра ўсё, што павінна вырасці на іх зямлі.

А плён! Ён нядрэнны. Прадалі летась -- і не толькі ў Беларусі -- 25 тон бульбы, 7 тон морквы, 35 тон цукровых буракоў, 11 тон капусты ды ўсяго іншага. А з іншага -- амаль дзве тоны жыта ды яшчэ духмянага ячменю...

А што яны маюць з гэтага! Жывуць у двухпавярховым саўгасным доме. У кожнага двухпакаёўка з усімі неабходнымі выгодамі. Быт наладжаны. Але матэрыяльна пакуль не багата. Трэба процьма грошай, каб развіваць гаспадарку. А цэны на тэхніку, гаручае з кожным днём растуць. Вельмі цяжка ім. А што і калі пачыналася лёгка! І дзе! Тым больш -- у нашай Беларусі. Няхай жа ім спрыяе поспех. Бо з такіх людзей пачынаецца ўсё добрае.

Віктар СТАВЕР.





НА ЗДЫМКАХ: Віктар ТАРАСЕНКА (злева) і Аляксей ГЕРАСІМОВІЧ з сынам Міхаілам на сваім полі; Віктар ТАРАСЕНКА з жонкай Ганнай і дачкой Рафаэлай; набылі фермеры бульбаўборачны камбайн...; у гэтым доме жывуць сем'і фермераў.

Фота аўтара.

ДА ПРАБЛЕМЫ АДРАДЖЭННЯ МАЛЫХ ГАРАДОЎ І ПАСЕЛІШЧАЎ

# ДУХОЎНЫ ПАДМУРАК ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

26 мая адбыўся пленум праўлення Беларускага фонду культуры, прысвечаны праблеме адраджэння малых гарадоў. "Адраджэнне духоўнай культуры старажытных гарадоў і паселішчаў Беларусі, -- гаварыў старшыня фонду, народны пісьменнік Іван Чыгрынаў, -- праблема вельмі важная не толькі ў сэнсе вяртання гістарычнай памяці грамадзянам Беларусі, абуджэння іх нацыянальнай годнасці, гонару за сваю бацькаўшчыну, але і для станаўлення беларускай дзяржаўнасці, надання больш высокага статуса былым гістарычным і культурным цэнтрам рэспублікі. Зараз мы будуем сваю дзяржаву, а малыя гарады і старажытныя паселішчы, вёскі — гэта, вобразна кажучы, духоўны падмурак беларускай дзяржаўнасці".

Канешне, працэс адраджэння патрабуе не толькі маральнай падтрымкі, але і сур'ёзных матэрыяльных выдаткаў, а з гэтым сёння, як вядома, не проста. Але ці маем мы права адкласці гэтую справу на потым і чакаць лепшага жыцця, калі ў невялікіх гарадах і вёсках жыве прыкладна палова насельніцтва рэспублікі? І людзі, якія там жывуць, маюць права на ўмовы не горшыя, чым жыхары Мінска ці іншых буйных гарадоў. І зноў жа даўно заўважана, што там, дзе вышэйшы ўзровень культуры, дзе ідзе нацыянальнае адраджэнне, лепш працуе і эканоміка.

На пленуме выступіў дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс. У прыватнасці, ён сказаў: "Мне здаецца, што праблема, якая сёння абмяркоўваецца, мае вельмі сур'ёзнае значэнне для беларускай культуры і нацыянальнага адраджэння. У сучасным цывілізаваным свеце існуе думка, што Еўропа XXI стагоддзя будзе Еўропай не народаў і дзяржаў, а Еўропай рэгіёнаў. У Заходняй Еўропе ўсё да гэтага і ідзе, мы ж на праблему рэгіёнаў, цесна звязаную з праблемай малых гарадоў, не звяртаем аніякай увагі". Выступленне А. Мальдзіса было прысвечана праблеме рэгіянальнага дзялення, якая, на яго думку, цесна звязана з праблемамі краязнаўства і нацыянальным адраджэннем.

Умацаванню беларускай дзяржаўнасці было прысвечана выступленне гісторыка Міколы Ермаловіча.

-- Трэба пераламаць існуючую ў народзе свядомасць, што мы, беларусы, заўсёды былі ад некага залежнымі, -- сказаў ён. -- Адраджэнне духоўнай культуры старажытных гарадоў і паселішчаў -- адзін са шляхоў да гэтага.

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны разам з Беларускім фондам культуры выступаюць ініцыятарамі стварэння праграм адраджэння духоўнай культуры старажытных гарадоў і паселішчаў Беларусі. Для распрацоўкі праграмы пры фондзе культуры на грамадскіх пачатках створана камісія, якую ўзначаліў старшыня Камітэта па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхальчанка.

-- Ад таго, як удасца вырашыць праблему малых гарадоў і старажытных паселішчаў, нават пакуль што на тэарэтычным узроўні, -- сказаў Іван Чыгрынаў, -- у многім залежыць будучыня беларускай культуры, яе непаўторнасць і нацыянальная адметнасць.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

*РЭПАРТАЖ З ВІЛЬНІ*

# ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Знамянальная падзея адбылася 21—22 мая ў Вільні. Тут па ініцыятыве беларускіх суполак у Літве ўрачыста адзначылі 75-я ўгодкі Віленскай беларускай гімназіі. На іх святкаванне сабраліся як былыя выпускнікі ды цяперашнія вучні і настаўнікі, актывісты беларускіх арганізацый у Літве, запрошаныя госці з Беларусі і прадстаўнікі літоўскіх улад. Як вядома, Віленская беларуская гімназія пакінула выключна глыбокі след у беларускім адраджэнскім руху. Яе заснавальнікам быў вядомы беларускі дзеяч Іван Луцкевіч, а выкладчыкамі працавалі ў свой час Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Драздовіч, Аркадзь Смоліч і іншыя. Ва ўмовах жорсткага рэжыму польскіх уладаў гімназія была сапраўднай кузняй беларускіх нацыянальных кадраў на Віленшчыне. У гімназіі выкладаў, а затым працаваў яе дырэктарам Барыс Кіт, які стаў пазней сусветна вядомым вучоным у галіне астранаўтыкі. Гімназію закончыла знакамітая беларуская паэтка Наталля Арсеннева. Закрытая ў 1944 годзе савецкімі ўладамі, гімназія аднавіла сваю дзейнасць толькі ў верасні 1993 года намаганнямі такіх ахвярных людзей, як яе цяперашні дырэктар Лілея Плыгаўка, настаўнікі Галіна Сівалава, Генрых Пяткевіч і многія іншыя актывісты беларускіх суполак. Зараз у гімназіі ва ўсіх адзінаццаці класах навучаецца больш ста вучняў. Першы год аднойленая гімназія месцілася ў памяшканнях двух сярэдніх школ Вільні. З новага навучальнага года яна ўжо будзе працаваць у выдзеленым ёй літоўскімі ўладамі асобным будынку.

У час урачыстага сходу сваімі ўспамінамі аб гадах вучобы ў гімназіі падзяліліся яе былыя выпускнікі Зоя Каўшанка і Мацей Канапацкі з Польшчы, Лявон Луцкевіч з Вільні, Яўгенія Шастак з Навагрудка. Так, Мацей Канапацкі адзначыў, што Віленская беларуская гімназія ў даваенныя часы была адзіным асяродкам беларускай культуры ў Заходняй Беларусі. Алег Анцукевіч перадаў для будучага музея гімназіі некаторыя рэчы і дакументы свайго бацькі, які быў дырэктарам гімназіі ў даваенныя гады.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

41

Гэта азначала поўную паланізацыю уніяцкіх навучальных устаноў. Чацкі дзейнічаў тайна. Але калі Лісоўскі аб гэтым даведаўся, ён звярнуўся непасрэдна да цара, і ўжо выдадзены ўказ быў адменены. У барацьбе Лісоўскага з Чацкім адлюстравалася ўстойлівая традыцыя змагання беларусаў з палякамі за сваю самабытнасць.

Увогуле тое, што справы палітычныя ставіліся кіраўніцтвам Віленскай навучальнай акругі вышэй навуковых, стварала глебу для незадаволенасці мясцовай інтэлігенцыі польскім нацыянальным эгаізмам і прымушала іх задумвацца над лёсам Бацькаўшчыны. Менавіта выкладчыкі Віленскага універсітэта сталі першымі творцамі беларускага адраджэння. Міхаіл Баброўскі пачаў даследаванне спадчыны Ф.Скарыны, І. Даніловіч звярнуўся да вывучэння Літоўскага Статута і старабеларускіх летапісаў, Ігнат Анацэвіч напісаў першую гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Намаганні Чартарыскага і яго паплечнікаў прыводзілі да зусім нечаканых для іх вынікаў. Польская школа не толькі паланізавала, але і давала выдатныя веды, якія сілкавалі пачуцці краёвага патрыятызму, абуджалі цікавасць да мінуўшчыны Літвы--Беларусі, культуры яе народа. Асвета, у якой бы яна моўнай форме ні праводзілася, спрыяла самапазнанню народа, усведамленню яго этнічнай адметнасці. У рэшце рэшт яна падрыхтоўвала нацыянальна-вызваленчы рух. Але ў першай палове XIX стагоддзя гэты працэс сярод нашага народа толькі зараджаўся.

42

# 5. У ПОШУКАХ ЛЕПШАЙ ДОЛІ. 1813—1830.

Царскія рэформы абмяжоўваліся асветай. І хоць яны адкрывалі для мясцовай шляхты шырокае поле дзейнасці, гэтага было недастаткова для дэмакратызацыі грамадства. Шляхецкая інтэлігенцыя з зайздрасцю глядзела на Царства Польскае, якому былі дараваны царом канстытуцыя і сейм. Выяўлялася непрыхільнасць да расійскага дэспатызму. Усё яшчэ жылі спадзяванні на ўзнаўленне гістарычнай польска-літоўскай дзяржаўнасці і традыцый канстытуцыі 1791 года. Прагрэсіўныя перамены на Літве-Беларусі можна было здзейсніць шляхам пашырэння царскіх рэформ або шляхам узброенай барацьбы за ўзнаўленне рэфармаванай Рэчы Паспалітай. Але ці былі перамены да лепшага ўвогуле рэальнымі?

## 5.1. Пасляваеннае становішча

**ПАНСКАЯ ГАСПАДАРКА.** Вядучаму стану грамадства было над чым задумацца, бо пасля вайны 1812 года наш народ меў гаротнае жыццё. Вялікі попыт на хлеб у Заходняй Еўропе зацікавіў паноў Літвы-Беларусі ў пашырэнні яго вытворчасці. Рабілася гэта дзікунскімі метадамі: павелічэннем плошчы ворных зямель за

43

кошт лугоў, пустэчаў ды і сялянскіх надзелаў. Зразумела, што для апрацоўкі ўзбуйненых збожжавых палеткаў землеўладальнікі карысталіся дармавой прыгоннай сілай. На паншчыну выганяліся ўсе дарослыя і нават састарэлыя сяляне. У час жніва яны працавалі амаль штодзённа і ні ў чым не адрозніваліся ад тымчасных амерыканскіх рабоў на баваўняных плантацыях. Сялянская ж збажына стаяла ў полі, асыпалася ад дажджу і ветру. Скарачэнне плошчы лугоў вяло да памяншэння пагалоўя жывёлы, а гэта значыць і да памяншэння запасаў натуральнага ўгнаення, урадлівасці глебы. Сталі частымі неўраджаі і голад, але паны ўпарта піхалі хлеб за мяжу (балазе, еўрапейскі рынак быў побач), каб атрыманыя прыбыткі прапіць і праесці потым у Варшаве ці Пецярбургу. Зразумела, што былі сярод іх і дбайныя гаспадары.

**ПЕРЫЯДЫЧНЫ ГОЛАД.** Асабліва часта неўраджаі здараліся на Літве-Беларусі ў пачатку 20-х гадоў. З'явілася шмат жабракоў, былі смяротныя выпадкі ад голаду. Сяляне харчаваліся так званым пушным хлебам, выпечаным з мукі, мякіны, бярозавай кары і іншых сурагатаў. Голад 1822 года звярнуў на сябе ўвагу ў Пецярбургу. Там быў створаны асобы Заходні камітэт, у якім шмат гаварылася аб гаротным становішчы літоўска-беларускіх сялян, але дзейснай дапамогі ад урада вёска Літвы-Беларусі не дачакалася. Справа скончылася чарговымі льготамі панам, якія атрымлівалі іх ад рускага цара ў пасляваенны час перыядычна. Тыя ж пазыкі, што дзяржава выдаткоўвала для галодных, асядалі ў кішэнях прыгоннікаў. Жахі го-

44

ладу былі настолькі вялікімі, што некаторыя губернатары мелі мужнасць звярнуцца да старых пятроўскіх законаў і канфіскоўвалі лішкі хлеба ў паноў для раздачы сялянам. Але наколькі далёкія былі мясцовая адміністрацыя і царскі ўрад ад сялянскага жыцця, сведчыць перапіска 1823 года беларускага генерал-губернатара Хаванскага з Пецярбургам, у якой дыскутавалася пытанне, чаму сяляне Літвы-Беларусі ядуць хлеб з саломай -- па звычцы ці з-за нястачы. Хаванскі лічыў гэта шкоднай звычкай, якую трэба забараніць законам.

**РАСПАЎСЮДЖАННЕ БУЛЬБЫ.** Ад павальных галадовак сялян выратавала ў значнай ступені бульба. Да канца 20-х гадоў яна з агароднай ператварылася ў палявую культуру і стала для літоўска-беларускай вёскі сапраўды другім хлебам. У той жа час гэта паспрыяла росту вінакурнай вытворчасці ў панскіх маёнтках. Бульбяная гарэлка паноў прадавалася ў шматлікіх корчмах, што ўзнікалі амаль што праз кожныя дзве вярсты па бальшаках і вёсках. Сялянам было дзе "заліць" сваё гора і пакінуць апошнюю капейку. Галеча не пакідала іх.

**САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАТЭСТЫ СЯЛЯН.** Гаротнае жыццё абумоўлівала і адпаведны выгляд прыгонных. Вось як апісваў у 1831 годзе віцебскіх сялян урадавы чыноўнік з Пецярбурга: "Несамавітыя, вялыя, ціхія, ветлівыя, кланяюцца кожнаму праезджаму з выглядам рабоў, не чуваць у іх вясёлай песні; весялосці і бестурботнасці не бывае нават на Пасху".

Але былі і такія, што не мірыліся з рабскім

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

45

жыццём. У галодны 1822 год да 1/3 тых жа віцебскіх сялян уцякло ад сваіх паноў. Яны ды іншыя ўцекачы знаходзілі прытулак на вольных землях поўдня Украіны, а то і ў сваіх пушчах, дзе жылі ваўкалакамі, пакутавалі, але да прыгоннікаў не вярталіся. Літоўска-беларуская "партызаншчына" 1812 года станавілася традыцыяй. Лес быў выратавальным для вяскоўцаў і надалей. Сяляне ў штыкі сустрэлі пашырэнне паншчыны. Яны адмаўляліся выконваць павіннасці, якія не былі запісаны ў старых інвентарах маёнткаў. Асабліва хваравіта рэагавалі на ўзмацненне прыгону местачковыя сяляне, якія раней з'яўляліся мяшчанамі. Іх бунты ў пачатку XIX стагоддзя адбыліся ў мястэчках Мальча Пружанскага, Гарадзец і Дзівін Кобрынскага, Мілейчыцы і Камянец Брэсцкага, Баравое і Давыд-Гарадок Пінскага паветаў. Сяляне дамагаліся волі, не хлеба, не багацця, а волі. І толькі з дапамогай царскага войска, пад канвоем паны выводзілі былых шляхціцаў на свае ўгоддзі, а то секлі розгамі, высылалі ў Сібір. Аднак сяляне ўзнімаліся зноў і зноў. Барацьба абвастралася яшчэ і таму, што над беларускім праваслаўным ці уніяцкім сялянствам стаяла спаланізаванае каталіцкае панства.

Дзяржаўныя сяляне таксама цярпелі нястачу і здзек з боку арандатараў, якія імкнуліся за часовы тэрмін свайго гаспадарання выціснуць з прыгонных усё, што толькі маглі. Сялянскія хваляванні ў староствах станавіліся звычайнай з'явай. З 1810 года на Літве-Беларусі была ўведзена агульнарасійская сістэма ваенных пасяленняў, у якіх дзяржаўныя сяляне павінны

46

былі спалучаць вайсковую службу з заняткамі сельскай гаспадаркай. Аляксандр І і яго прыбліжаны міністр Аракчэеў спадзяваліся такім чынам скараціць выдаткі на ўтрыманне арміі і прадухіліць сялянскія выступленні.

**ГАРАДСКОЕ ЖЫЦЦЁ.** Моцнае яшчэ ў XVIII стагоддзі беларускае мяшчанства, якое трымала ў сваіх руках гарадское самакіраванне, мела брацтвы, падтрымлівала царкву і літаратуру, канчаткова аслабела ад непасільных падаткаў (з 1797 па 1812 год яны ўзраслі ў тры разы), вайсковых пастояў, ваенных рэквізіцый. Гандаль у гарадах прыйшоў у заняпад. Знікла багатае літоўска-беларускае купецтва, якое раней таксама апекавала асветныя ўстановы. Магістраты і гарадскія думы не атрымалі ад царскага ўрада рэальнай самастойнасці. Гарады апынуліся пад кантролем спаланізаваных чыноўнікаў дзяржаўнага апарату.

Увогуле, літоўска-беларускае насельніцтва гарадоў страціла былую эканамічную і культурную ролю. У шмат якіх выпадках яно кідала гарадскія промыслы і пераходзіла да агародніцтва. Рамяство і гандаль у гарадах перахопліваліся яўрэйскім насельніцтвам, якое змагло хутчэй прыстасавацца да новых варункаў жыцця. Тым больш, што ва ўмовах царскай Расіі прадпрымальніцтва было для яўрэяў адзіным сродкам існавання.

## 5.2. Віленскія таварыствы

**ГРАМАДСКАЯ НАПРУЖАНАСЦЬ.** Пашырэнне на Літве-Беларусі ідэй асветніцтва, адукацыі, навукі, а таксама пагаршэнне сацыяльна-эка-

47

намічнага стану краю ўзнялі перадавую частку шляхты на чарговую хвалю грамадска-палітычнай актыўнасці. Спробы змяніць лёс літоўска-беларускіх зямель у часы раздзелаў Рэчы Паспалітай і вайны 1812 года, як вядома, былі няўдалымі. Таму на парадку дня заставаліся ўсё тыя ж праблемы: незалежнасць, дэмакратызацыя дзяржаўнага кіравання і паляпшэнне жыццёвых умоў для народа.

Цэнтрам грамадска-палітычнага руху стала Вільня. Тут дзейнічаў універсітэт, выдаваліся газеты, першая з якіх з'явілася яшчэ ў другой палове XVIII стагоддзя. Яна належала езуітам і мела назву "Кур'ер Літоўскі". Пасля выгнання Напалеона пры універсітэце ствараюцца навукова-асветныя студэнцкія гурткі, якія паступова набываюць палітычную афарбоўку.

**ШУБРАЎЦЫ.** Найраней пры непасрэдным удзеле прафесара Анджэя Снядэцкага, роднага брата віленскага рэктара, узнікае "Таварыства шубраўцаў" (гультаёў). Яго сябры ўзялі сабе за мэту з дапамогай сатыры высмейваць п'янства, карцёжныя гульні, суцяжніцтва, фанабэрыстасць і іншыя недахопы шляхціцаў і магнатаў. Пячатка з выявай скрыжаваных лапаты і мятлы ў дубовым вянку сведчыла аб рашучасці шубраўцаў вычысціць і вымесці з жыцця ўсякае смецце. Гурткоўцы мелі сваю газету "Ведамасці Брукавыя" (вулічныя). У ёй супрацоўнічалі лепшыя навуковыя і літаратурныя сілы ўсяго горада. Газета (1815--1822) мела вялікі ўплыў на грамадскую думку краю. У ёй выяўляліся іранічныя адносіны да шляхты і сімпатыі да простых людзей, а часам і ганьбаванне прыгонніцкага побыту. Друкаванае слова прызначалася для Літвы-Беларусі. Артыкулы пісаліся без аглядкі на Варшаву. І гэта

48

выклікала незадаволенасць у Польшчы, дзе баяліся, што мясцовы сепаратызм пашкодзіць агульнапольскай справе. У той жа час лібералізм шубраўцаў неяк сумяшчаўся з антысемітызмам. Дарэчы, з іх шэрагаў выйшаў сумна славуты пецярбургскі літаратар і журналіст Фадзей Булгарын, які пісаў даносы на Аляксандра Пушкіна.

**ФІЛАМАТЫ.** Адначасова з шубраўцамі, але патаемна дзейнічала "Таварыства філаматаў" (аматараў навук), якое ўзнікла ў 1817 годзе. Праз два гады такое ж таварыства было створана навучэнцамі Свіслацкай гімназіі ў Гродзенскай губерні. Філаматамі станавіліся прадстаўнікі шляхецкай патрыятычнай моладзі. Яны імкнуліся шляхам адукацыі палепшыць стан Бацькаўшчыны, гэта значыць Літвы-Беларусі як правінцыі былой Рэчы Паспалітай. І сапраўды спачатку навучэнцы захапляліся Вальтэрам, Русо і іншымі асветнікамі Францыі. Аднак пад уплывам вывучэння народнага жыцця, гісторыі і культуры Літвы-Беларусі і Жамойці многія з іх далучаюцца да рамантызму, мараць аб скасаванні прыгону, аднаўленні незалежнай Рэчы Паспалітай. Вялікім аўтарытэтам у гурткоўцаў карыстаўся славуты прафесар гісторыі Іаахім Лялевель, які прапаведаваў тэорыю натуральнага права кожнай асобы на вольнае, забяспечанае жыццё. Сярод філаматаў былі знакамітыя ўраджэнцы Літвы-Беларусі: зорка першай велічыні ў польскай паэзіі Адам Міцкевіч, пачынальнікі новай беларускай літаратуры Ян Чачот і Тамаш Зан, вядомы на ўвесь свет навуковец Ігнацій Дамейка. Да 1820 года арганізацыя распалася з-за нязгоды яе сяброў.



**Пра майстэрства нашых продкаў, пра іх творчую фантазію і пошук распавядае экспазіцыя музея Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. У асобную калекцыю сабраны творы майстроў, якія пражывалі на тэрыторыі, забруджанай пасля чарнобыльскай катастрофы. Абязлюдзелі вёскі на атручанай зямлі, але не загінулі вырабы таленавітых мастакоў, ганчароў, разьбяроў па дрэву.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Ад гасцей прысутных віталі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, Часовы павераны ў справах Літоўскай рэспублікі ў Беларусі Аўгуліс, намеснік дырэктара дэпартамента нацыянальнасцей Літвы Вайцекус, член Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Тамара Русачык. А намеснік міністра адукацыі нашай рэспублікі Генадзь Бялян разам з віншаваннямі ад імя беларускага ўрада перадаў гімназіі падарункі: тэлевізар, тры касетныя магнітафоны і тры швейныя машыны. Своеасаблівым віншаваннем удзельнікаў урачыстага сходу было цікавае выступленне перад імі ўзорнага ансамбля народнай песні "Званочкі" з першай ашмянскай школы.

У заключэнне ўрачыстага сходу адбылося ўзнагароджанне лепшых вучняў гімназіі, выступленні вучнёўскай самадзейнасці гімназіі і хору клуба аматараў беларускай народнай творчасці "Сябрына".

На другі дзень, у нядзелю, працягвалася праграма святкавання. У гэты дзень на магілы былых вучняў і настаўнікаў гімназіі былі ўскладзены кветкі.

Затым былыя выпускнікі гімназіі, якія прыехалі на юбілей, сустрэліся ў клубе Таварыства беларускай культуры, і зноў пачаліся ўспаміны аб гадах вучобы, аб тым, што захавалася ў сэрцы і памяці. Перад прысутнымі выступіў з канцэртам вакальна-інструментальны ансамбль Міністэрства адукацыі Беларусі "Бліскавіца".

Святкаванне юбілею Віленскай беларускай гімназіі з'явілася важным крокам для пашырэння беларускага школьніцтва на Віленшчыне. Маючы такую багатую гісторыю, можна з верай і надзеяй глядзець у будучыню.

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма".**

**АД РЭДАКЦЫІ: Да рэпартажу Уладзіміра Навіцкага нам хацелася б дадаць віншавальную тэлеграму ад Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, прысланую з Нью-Йорка.**

Шаноўнай Дырэкцыі Віленскай Беларускай Гімназіі

Высокапаважаныя Спадарыні і Спадары!

Ад імя Галоўнай Управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, яе сяброў і былых вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі ў Злучаных Штатах Амерыкі маю гонар вітаць вас з нагоды 75-х угодкаў ад заснавання Віленскай Беларускай Гімназіі.

Арганізацыя Віленскай Беларускай Гімназіі была адным з многіх вялікіх беларускіх адраджэнскіх праектаў Івана Луцкевіча, ад перадчаснай смерці якога мінае незадоўга таксама 75 гадоў.

Гістарычны шлях Віленскай Беларускай Гімназіі неразрыўна звязаны з цярністым шляхам Беларускага Народу да незалежнасці за апошнія 75 год. На шляху гэтым гінулі ў маскоўска-бальшавіцкіх, нямецка-фашысцкіх і польскіх турмах і канцэнтрацыйных лагерах лепшыя настаўнікі і гадунцы гэтай гімназіі. Хопіць згадаць некаторых, якіх імёны вядомыя ў гісторыі беларускага адраджэння: Антона Луцкевіча, Максіма Гарэцкага, Аркадзя Смоліча, Вячаслава Багдановіча, Неканда-Трэпку, Краўцова Макара, айцоў Адама Станкевіча, Аляксандра Каўша, Станіслава Глякоўскага і многа іншых.

Хай жа адроджаная Віленская Беларуская Гімназія станецца кузняй маладога пакалення беларускіх патрыётаў, хай ейны шлях вядзе ў светлую будучыню Беларускага Народу!

Жыве Беларусь!

**Антон ШУКЕЛОЙЦЬ,**
**старшыня.**

ПІСЬМО-ПРАТЭСТ

# НЕ ЧАПАЙЦЕ НАШАЙ СІМВОЛІКІ!

З пачуццём сораму і агіды пачулі мы сёння ад вядучага перадачы "Радыёфакт" А. Шаўко аб пісьме гэтак званага "народнага" Руху за сацыяльны прагрэс і сацыяльную справядлівасць" у Вярхоўную Раду краіны з патрабаваннем склікання нечарговай сесіі, якая б скасавала нацыянальную сімволіку краіны, бо яна ім, бачыце, не дае спакойна спаць! Камуністы, пенсіянеры-вайскоўцы, рэваншысты ўсіх колераў і адценняў, для якіх незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, бы костка ў горле, вышукваюць усё новыя і новыя прычыны, каб парушыць спакой і згоду ў беларускім грамадстве. І апошняе іх "Пісьмо" ў Вярхоўную Раду краіны -- яркае гэтаму сведчанне! Таварышы-змагары матывуюць адмену нацыянальнай сімволікі незалежнай краіны тым, што яе выкарыстоўвалі ў час вайны з Германіяй памагатыя фашыстаў. Але ж чым тут правінілася сімволіка?! Ці не пад чырвонымі сцягамі і чырвона-зялёнымі гэтаксама 1 мая 1986 года ў нашых гарадах і вёсках людзі выходзілі на дэманстрацыі, глытаючы радыяцыю, хаця пасля чарнобыльскай аварыі прайшло аж 4 дні, і тыя, хто сядзеў у сваіх шыкоўных кабінетах пад камуністычнай сімволікай, не паклапаціліся папярэдзіць свой народ аб страшэннай трагедыі, якая напаткала яго?! Чаму ж вы, такія нязломныя змагары за "справядлівасць", не заклікаеце Генеральнага пракурора спадара Шаладонава прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за замоўчванне гэтай трагедыі ў яе першы ж дзень, нават час, адказных таварышаў, большасць з якіх сёння крочаць у адных з вамі шарэнгах у так званым НДБСПСС?!

Бо вам гэта не патрэбна, таму што гэта будзе не на вашу карысць, не на вашу перамогу! Злачынствы ў Курапатах гэтаксама рабіліся пад камуністычнай сімволікай: сярпом і молатам і чырвоным сцягам. Няўжо вы думаеце, што беларускі народ аб гэтым ужо паспеў забыцца?! Дык якая ж вам патрэбна сімволіка?!

Сёння, калі мы знаёмы з сапраўднай гісторыяй Беларусі не па кніжках Абэцэдарскага, які пісаў "гісторыю" нашай краіны па заяўцы КПБ--КПСС, а па працах сапраўдных вучоных-гісторыкаў, такіх, як Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Мікола Ермаловіч, Юры Туронак і шэраг іншых, мы ведаем і гісторыю нашае нацыянальнае сімволікі -- гербу "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга, і ніякім псеўдазмагарам не кінуць болей ценю на гэтыя народныя святыні беларусаў, бо сёння Беларусь -- гэта не толькі краіна вайсковых пенсіянераў, камуністаў-рэваншыстаў, сабораўцаў і іншых антыбеларускі настроеных грамадзян, якіх меншасць сярод агульнай колькасці насельніцтва. Сёння Беларусь -- гэта краіна, якая вяртае з небыцця сваю гісторыю, сваю культуру, ратуе мову карэннага насельніцтва, якая гэтаксама, як і нацыянальная сімволіка, не дае спакойна спаць усё тым жа грамадзянам, аб'яднаным у НДБСПСС! Сённяшняя Беларусь належыць маладым!!! Ім, а не вам, каму ўжо па 70--90 гадоў, жыць у новай краіне, і менавіта яны могуць рабіць выснову, якія нацыянальныя сімвалы патрэбны народу незалежнай і суверэннай краіны!..

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ПАМІЖ БОГАМ І Д'ЯБЛАМ, або ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД, АДДАДЗЕНЫХ "ФАЎСТУ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Тут узнікае пытанне, што лепш -- арыгінал ці пераклад, настолькі ў Жукоўскага атрымаўся своеасаблівы і непаўторны твор. Добра? Канешне. Але, калі паглядзець на тое, што напісаў Шылер, дык што ж добрага ў тым, што ён не адпавядае арыгіналу?

-- Ці ёсць нейкія асаблівасці ў перакладзе з нямецкай мовы на беларускую? І як увогуле стасуюцца гэтыя дзве мовы?

-- Выдатна стасуюцца, і прычына, я думаю, у тым, што наша мова яшчэ недастаткова распрацавана, яна яшчэ не ўстаялася, і гэтая якасць прыдатная пры перакладзе. У рускай мове, якая ўстаялася, ужо выпрацаваўся свой уласны стыль, я нават не ведаю, як яго назваць, -- "изящно, красиво, правильно" -- усярэднены стыль. "Она взирала на меня", -- так жа ніхто не гаворыць, а пісаць, значыць, можна? А ў беларускай мове кожны перакладчык можа нешта шукаць, эксперыментаваць, тварыць у сілу сваіх магчымасцяў. Мне падаецца, што менавіта таму і бываюць вялікія ўдачы. Я бясконца магу гаварыць, напрыклад, пра Язэпа Семяжона. Які ён свабодны перакладчык! Яго часта крытыкуюць за тое, што ягоны пераклад бывае разы ў два большы за арыгінал. Але ж гэта можна заўважыць толькі, калі будзеш параўноўваць з арыгіналам, а так -- ніколі, настолькі натуральна льецца яго паэтыка, свабодна лётае яго перакладчыцкая муза. Мне здаецца, што гэта вельмі добра, ён таксама выкарыстоўвае асаблівасці нашай мовы.

-- Як вы лічыце, што чакае беларускі пераклад?

-- Калі нас цуд уратуе, мы выжывем, але я не чакаю нічога вельмі добрага, таму што і раней, і цяпер перакладчыкі ў нас былі ўсё ж такі літаратарамі другога гатунку. Асабіста я дзесяткі разоў з гэтым сутыкаўся. "Вы хто?" -- пыталіся ў мяне. Я гаварыў: "Пісьменнік". -- "А ў якім жанры вы працуеце?" -- "Я перакладчык."

Адразу ў субяседніка з'яўляецца ўхмылка на вуснах. Ва ўяўленні людзей гэта нешта несур'ёзнае, гэта не ёсць самастойная творчасць, і адносіны да яе адпаведныя. Такія ж адносіны да перакладу і ў нашых пісьменнікаў. Амаль для ўсіх іх пераклад заўсёды быў сродкам крышачку падзарабіць, падтрымаць сваю сям'ю, пакуль чалавек сур'ёзна працуе над нечым сваім, над вялікай кнігай. Калі гэта таленавіты пісьменнік, дык ён, падзарабляючы, і ў перакладзе стварае нешта добрае, бо ён проста не ўмее працаваць дрэнна. Ну, скажам, я не магу ўявіць, што Барадулін перакладзе верш горш, чым напіша свой. Не можа чалавек пісаць дрэнна, гэта яго бяда. Таксама ж не мог дрэнна пісаць і перакладаць, на мой погляд, геніяльны беларускі літаратар і перакладчык Аркадзь Куляшоў. Я не ведаю, хто яшчэ пасля яго зможа перакласці на беларускую мову Пушкіна ці Лермантава, я нават не разумею, як у яго гэты цуд атрымліваўся.

Быў у нас яшчэ адзін, як я лічу, перакладчык еўрапейскага ўзроўню, не цалкам яшчэ дагэтуль выяўлены. Гэта Уладзімір Дубоўка. Шкада, што мы не ацанілі сапраўднага генія і ў паэзіі, і ў перакладзе. Што зробіш, зараз мы маем толькі сумныя асколкі таго, што ўратавалася, што засталося. Я не думаю, што ў Беларусі будзе сапраўдная школа, цэльная перакладчыцкая плынь, свежы, працяглы, моцны, шматгадовы і самастойны струмень. Гэта заўсёды будуць нейкія адзінкі, вар'яты, якія проста любяць гэтую справу. Але ж у нас ёсць велізарны набытак, які складваўся доўгія гады, -- Скарына, Багдановіч, Купала, Дубоўка, Куляшоў, Барадулін, Семяжон... Кожны з іх у перакладзе быў самабытнай і непаўторнай асобай, кожны ішоў сваёй адмысловай дарогай, і калі ўзяць разам усё створанае імі, мы атрымаем велізарнае багацце.

-- Ці перакладае сёння хто-небудзь з сур'ёзных перакладчыкаў камерцыйную літаратуру? Як вы ўвогуле ставіцеся да гэтага?

-- Перакладаюць, і я не магу кінуць камень у іх агарод, бо людзям трэба жыць, трэба есці. Але камерцыйная літаратура ў большасці сваёй знаходзіцца на патоку, і менш за ўсё камерсантаў цікавіць якасць перакладаў -- хутчэй, хутчэй... Таму такія пераклады часцей за ўсё па-за літаратурай, хаця некаторыя сур'ёзныя перакладчыкі і аспрэчваюць гэта, гавораць, што праз маскультуру таксама трэба беларускую мову адраджаць, трэба друкаваць па-беларуску і фантастыку, і Чэйза, і ўсё, што чытаюць... Я да гэтага стаўлюся вельмі адмоўна, бо калі чалавек па-беларуску не гаворыць, то, прачытаўшы Чэйза, ён мову не палюбіць і раптам размаўляць на ёй не пачне. Усе адраджэнні, якія былі і будуць, не робяцца такім танным спосабам. Я разумею, што пераклады Чэйза могуць быць патрэбнымі для заробку, але не трэба пад жаданне зарабіць падводзіць базу нацыянальнага адраджэння.

-- Скажыце, а вам ніколі ніхто не задаваў пытання: навошта ўвогуле перакладаць на беларускую, калі можна тое ж прачытаць па-руску?

-- Мне гэтае пытанне задавалі тысячу разоў. Але, скажыце, навошта вам чытаць "Фаўста" па-руску, калі вы можаце прачытаць лепшы пераклад на беларускай мове? Так, я нахабна вам адказваю, але тым не менш, кожны перакладчык лічыць, што яго пераклад -- лепшы, кожны імкнецца да гэтага. І такая фанабэрыя павінна быць, бо перакладаць мае сэнс толькі тады, калі ёсць жаданне стварыць лепш за папярэдніх, лепш, чым па-руску. Між іншым, адных толькі рускіх перакладаў "Фаўста" існуе аж 17! Чаго ўсе гэтыя людзі хацелі? Кожны хацеў зрабіць лепш, чым рабілі да яго, і гэтая творчая фанабэрыя апраўдваецца яго працай.

-- Колькі часу вы перакладалі "Фаўста"?

-- Пятнаццаць гадоў...

-- Што ж такога чароўнага ў "Фаўсце", калі столькі людзей імкнуцца да яго, столькіх ён прываблівае?

-- Там -- усё. Я б сказаў, што гэта -- абсалютная кніга, як Біблія. Там ёсць дабро і зло, там -- тое, што і ў вас, і ўва мне, і паміж Богам і Д'яблам -- два полюсы, вечная барацьба паміж імі... На любое жыццёвае пытанне вы знойдзеце адказ у гэтай кнізе. Пра "Фаўста" можна гаварыць бясконца...

Між іншым, Біблію Васіль Сёмуха таксама на беларускую мову перакладаў. Спачатку -- Новы Запавет, цяпер працуе над перакладам Старога Запавету. Руплівa, дзень за днём працуе над тым, каб данесці да беларусаў Слова Божае на іх роднай мове.

"Калі нават маіх прыхільнікаў толькі тысяча набярэцца, я буду працаваць для гэтай тысячы", -- гаворыць пісьменнік. Мне здаецца, што прыхільнікаў было і ёсць намнога больш. Спадзяюся, што яны і будуць, бо вялікую справу далучэння людзей да роднай мовы і культуры можна рабіць толькі праз вялікую літаратуру, вялікую працу, усё жыццё, дзень за днём, непрыкметна і самаадданa. Толькі ад такога спакойнага, пастаяннага, невялікага, але вельмі яркага і нязгаснага агеньчыка і здольны запаліцца іншыя душы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРА

# ГРАМАДСТВА—ЧАЛАВЕК—НАЦЫЯ

На гэтай імпрэзе не было: цягамотных прамоў, нудотных дакладаў, сумных справаздач. Былі цікавыя, яркія выступленні, неардынарнага інтэлекту, відавочнага таленту людзі. Гаворка пазначалася сур'ёзная: "Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя". Праводзіў гэты Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры Беларускі ПЭН-цэнтр. Фінансаваў кангрэс фонд Сораса.

Калі ўлічыць, што ініцыятарамі стварэння Беларускага ПЭН-цэнтра і правядзення гэтага форуму былі найперш такія людзі, як народныя пісьменнікі Беларусі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін (прэзідэнт ПЭН-цэнтра), а таксама паэт і перакладчык (віцэ-прэзідэнт ПЭН-цэнтра) Карлас Шэрман, дык пэўна стануць зразумелыя і змястоўнасць, важкасць гаворкі, і высокі літаратурны кшталт яе.

Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, так бы мовіць, задалі тон, пазначылі галоўнае: "Мы працягваем жыць у посттаталітарным грамадстве, паводле былой таталітарнай мадэлі і яго абсурднай маралі"; ёсць "адзін толькі таталітарна-імперскі "беспредел" над 10-мільённым народам". Гэта -- з выступлення Быкава. "...кожнаму пакаленню трэба даводзіць, што мы беларусы, што мы народ адметны, што мы нацыя"; "нашая мова адразу не можа скінуць з сябе магільную пліту вагою ў два стагоддзі"; "пісьменнік перш за ўсё асоба, творца"; "народ нараджае асобу, асоба ўзбуйняе нацыю". Так працягваў гаворку Барадулін.

А потым удзельнікі кангрэса, госці, прэса пачулі прадуманыя, спрэсаваныя сэнсам выступленні гасцей і гаспадароў. Яна Бохеньскага (Польшча): "Асоба--народ--дэмакратыя--культура"; Карнеліуса Платэліса (Літва): "Шлях да адкрытага грамадства: вопыт Літвы"; Марыса Чаклайса (Латвія): "Дэмакратыя не ствараецца аўтаматычна: боль дэмакратыі"; Юрыя Сураўцава (Расія): "Права чалавека і права народа-этнаса: іх суадносіны ў сучаснай сітуацыі"; Хартмут Трэпер (Германія): "Культура, рынак і свабода творчай асобы"; Вольгі Помар (ЗША): "Аналіз заканадаўства аб друку ў ЗША і Беларусі"; Яўгена Сверсцюка (Украіна): "Кошт свабоды слова"; Вітаўта Кіпеля (ЗША): "Беларуская дзяржаўнасць і нацыянальна-людскія правы"; Яна Запрудніка (ЗША): "Грамадзянская супольнасць і няўрадавыя арганізацыі"; Валянціна Аскоцкага (Расія): "Мараль і палітыка" і г.д.

Гаспадары кангрэса -- беларусы -- годна вялі рэй. Вызначаючы праблематыку і падтрымліваючы размову. Канцэптуальна выяўленую размову. А вялі яе такія асобы, як Уладзімір Конан і Адам Мальдзіс, Міхась Тычына і Дзмітрый Бугаёў, Вячаслаў Рагойша і Анатоль Кудзельскі, Анатоль Вярцінскі і Барыс Луцэнка. Гаворка ішла пра антыноміі дэмакратыі і культуры, пра дэмакратыю і талерантнасць, пра таямніцы творчасці і беларускае Адраджэнне, пра літаратуру і таталітарызм, пра станаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці і сацыяльную актыўнасць мастака, пра экалогію нашай зямлі і становішча прыроднага асяроддзя за яе межамі, пра закон і права...

Спалучалі тэарэтычны грунт, публіцыстычны запал і вобразную гарэзію слова Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Алег Лойка, Валянцін Тарас, Яўген Будзінас...

Уменне абыходзіцца з фактам як са з'явай мастацтва прадэманстравалі Святлана Алексіевіч, Віктар Казько, Марыя Карповіч, Давід Сімановіч...

Калі б слова мела магчымасць адразу і непасрэдна пераўтварацца ў дзеянне, дык сённяшняя сітуацыя -- грамадзянская і культурная -- сталася б відавочна дэмакратычнай, свабода слова набыла б неаспрэчнасць, грамадзяне рэальна забяспечылі б свае правы на інфармацыю, а тым, хто трымае ў руках пяро, -- пісьменнікам, журналістам, літаратарам -- не пагражала б пакаранне за праўдзівае слова.

Але, трэба спадзявацца, кангрэс будзе мець свой уплыў на грамадскае і літаратурнае жыццё. (Неўзабаве матэрыялы гэтай грамадска-культурнай акцыі можна будзе прачытаць -- іх рыхтуе прадпрымальнік, прэзідэнт выдавецтва "Тэхналогія" Вацлаў Багдановіч).

Хацелася б яшчэ дадаць, што адбываўся кангрэс па-за гарадской мітуснёй, у маляўнічым кутку над рэчкай Іслач, у Доме творчасці пісьменнікаў. Пад знакам памяці Алеся Адамовіча, аднаго з заснавальнікаў Беларускага ПЭН-цэнтра. (У зале пасяджэнняў была наладжана фотавыстава Коктыша, прысвечаная Алесю Міхайлавічу. Кангрэс прыняў рэзалюцыю "Аб стварэнні Фонду дапамогі пісьменнікам і журналістам пры Беларускім ПЭН-цэнтры". Рахунак фонду 606902 у гардырэкцыі Белбізнесбанка, код 764).

**Ладысь СТАХ.**

**Ніжэй друкуем выступленне пісьменніцы Алы СЯМЁНАВАЙ на Міжнародным кангрэсе Беларускага ПЭН-цэнтра.**

# ІДЭАЛЫ І ІЛЮЗІІ

HISTORIA magistra vitae. Да гэтага вядомага сцвярджэння Цыцэрона мне заўсёды руціла паставіць пытальнік. Гісторыя -- настаўніца жыцця? Але каго яна навучыла? Ад чаго засцерагла? Улюбёнымі гульнямі эпох былі і застаюцца войны, рэвалюцыі, закалоты. Падман, хлусня, карыслівасць -- хіба хто знайшоў ад іх паратунак? А гісторыя нястомна распрацоўвае сюжэты новых драм, трагедый, фарсаў, трагіфарсаў. Даводзіць сюжэты да іх лагічнай або пазалагічнай развязкі. І не вырашае праблем быційных, адвечных, субстанцыяльных. Гісторыя -- эмпірык. Эксперыментатарка. Суддзя, а, бывае, экзекутар. І -- вызначальніца: каму -- слава, каму -- небыццё... Гісторыя, так бы мовіць, размяркуе...

Гістарычны час... Гістарычныя імкненні... Ідэалы. Ілюзіі. Хаця -- часам чалавецтва прымае ідэалы за ілюзіі, а ілюзіі -- за ідэалы. Здараецца, пазбаўляецца і тых, і другіх. Ці не такі сёння гістарычны момант? Разбураны дактрыны, да якіх ставіліся з малітоўнай пашанай, свабодныя месцы ў сферы ідэй пахапліва запаўняюць выпадковымі сэнсамі. Нейкім момантам незразумела -- хто, дзеля чаго, навошта **змагаецца**? Хто, каго, навошта забівае? Хто -- суддзі? Хто -- падсудныя?

Цывілізацыя выявіла сваю сутнасную супярэчлівасць, стала відавочным, што шляхі, пазначаныя чалавечым геніем, пакуль што набываюць выгляд тупікоў. Прастора сусвету ўсё больш уяўляецца разбуранатрывожным хаосам, усяіснай нязграіцай і ўсё менш -- увасабленнем светлай ідэі ў матэрыяльным быцці. На гадзінніку часу -- адміністрацыйная эпоха з яе таталітарнымі прадоннямі. Ідэалы сапраўднай свабоды, справядлівасці, дэмакратыі зваблівa з'яўляюцца і нікнуць, а на авансцэну гісторыі трапляюць то аморфныя безасабовыя індывідуумы, то маньякі, то блазны. І ім чамусьці саступаюць цвярозы прагматызм і эзатэрычна-абстрагаванае мысленне, спачатку не заўважаючы і пагарджаючы, пазней -- клічучы на дапамогу хрысціянскі вопыт, хітрамудрасць палітыкаў, моц канкрэтыкі зброі. Глыбіня жыццёвай фактуры пачынае напаўняцца пустотамі, крыніца жыцця не спатаняе прагу душы. Спасціжэнне ісціны, пошук унутранай засяроджанасці існавання спатыкаюцца аб жахлівасць і бессэнсоўнасць рэчаіснасці. Губляецца не толькі мелодыя чалавечай душы, не чуцён нават енк, крык яе -- у соцыумах знівеліраваных індывідуумаў.

Ідэалы ўсё ж застаюцца. І ілюзіі -- таксама. Спроба сённяшняга Адраджэння Беларусі -- спраўджванне ідэалаў ці чарговая ілюзія? Відавочна -- гэта адна з важных вех нашай гісторыі. Некаторыя трагічныя калізіі -- навідавоку: Айчынная вайна, Курапаты, Чарнобыль. Іншыя моманты нацыянальнай драмы -- не ўяўляюць (ці не маюць ахвоты ўяўляць) нават самыя, здавалася б, прагрэсіўныя людзі. І за межамі нашай краіны, і ў самой рэспубліцы Беларусь. Родная мова, сферу ўжытку якой старанна і мэтанакіравана рабілі абмежаванай і непрэстыжнай. Гісторыя, якую фальсіфікавалі. Культура, многія набыткі якой хаваліся і замоўчваліся, дзеячаў якой выбівалі, выпальвалі, высякалі. Ахоўвалі палітычную цноту (у залежнасці ад чарговага рэжыму), ласкава дазвалялі мясцовы каларыт і ў межах дазволеных этнаграфізм.

Сённяшні наш прывідны суверэнітэт -- адна з карт у калодзе чарговых гульняў эпохі. І ўсё ж мы спрабуем. Хаця гэтыя спробы -- набор непамысных антыномій.

Скінуты покрывы са шматлікіх фактаў гісторыі, цэлых перыядаў яе. Адсутнасць цэнзуры і ліквідацыя спецсховішчаў далі магчымасць апублікаваць многія помнікі літаратуры, права, філасофіі, мастацтва, якія засведчылі старадаўнасць і трываласць нацыянальнай культурнай традыцыі. Увайшла ў чытацкі і даследчыцкі абыходак літаратура беларускай эміграцыі. З'явіліся літаратурныя, філасофскія, палітычныя штудыі сённяшніх дзён, што сведчаць пра важкасць мысленніцкага духу нацыі.

Але які будзе лёс гэтых набыткаў? Хто засвоіць іх? Якую ролю яны адыграюць у жыцці нацыі і ў яе становішчы на планеце людзей? Зразумела, што інтэлектуальны авангард, эліта адначасова выяўляюць сваю эпоху і ідуць паперадзе яе. Маса ўспрымае ідэі і іх увасабленне з пэўнай паўзай. Але гэта павінна быць паўза, дыстанцыя, не бездань. У нас жа эўрыстыка не была і ў нядаўнюю пару ў пашане, а сёння індывідуальна-экспрэсіўны пачатак асобы фарміруецца ва ўмовах сацыяльнай і крымінальнай уседазволенасці, рэанімацыі не толькі фашыстоўскіх ідэй, але і фашыстоўскіх хаўрусаў, атмасферы духу гандляроў і мянял.

Ва ўмовах, калі большасць у нас, на Беларусі, не ведаюць уласнай мовы, затое ледзь не з калыскі засвойваюць мат -- гэткая "высокая" мода, ад кірмашу да стужак майстроў экрана. А самая вялікая абраза ў слове "інтэлігент"! Гэта так і вымаўляецца -- з пагардай, агідай і адчуваннем уласнай перавагі: маўляў, мне такая ганьба не пагражае.

У нас нібыта атрымалі магчымасць свабоды веравызнання. Сталі сутаргава прываджваць усё, ад чаго адкарасквaліся дзесяцігоддзі. Але па звычцы фанфарна-параднага волевыяўлення неяк звялі ўсё да залаташатавых урачыстасцяў, да казаняў выключна дыдактычных. Вышыні маральных асноў рэлігіі, філасофіі быцця, таямніцы духу -- усё засталося па-за ўвагай.

Мітусня. Гульні. Гульні палітычныя. Гульні эканамічныя. Гульні бясконцых саюзаў. Суполак. Фондаў.

Імпрэзы. Прэзентацыі. Рахункі. Якія лозунгі! Якая прага міласэрнасці і вышыні духоўнай! А побач можа спакойна гібець чалавек. "Любіць чалавецтва лягчэй, як зрабіць дабро суседу". Рыгор Скаварада.

Вядзецца гаворка пра галоснасць і свабоду асобы, пра абарону пісьменнікаў і журналістаў, а гінуць ад рукі забойцаў супрацоўнікі Беларускага тэлебачання Леанід Петруша і Аляксандр Чуланаў -- і нешта не чуваць было рашучых галасоў пратэсту.

Галёкаюць пра экалагічны марш праз Мінск. Выдатна. Колькі гаворкі будзе -- узрушанай, пафаснай! Але сам Мінск і Беларусь нагадваюць пейзаж пасля бойкі, вялікі сметнік, з дэмантаванымі сучаснымі вандаламі помнікамі, знявечанымі дрэвамі, стаптанымі газонамі.

Тым часам стомлена лічаць дні тыя, хто ўсё ж не адышоўся ад нармальнага, адвечнага занятку -- працы. Стварэння матэрыяльных і духоўных каштоўнасцяў. Трываюць гвалт жыцця. Ужо і не слухаюць. І веры не даюць. І наўрад ці што чытаюць. "Словы, словы, словы..."

Ці ж не абернуцца словы тых, хто іх прамаўляе, толькі духоўнай гімнастыкай, слоўнай эквілібрыстыкай, практыкаваннем розуму?

Пра што б ні весці гаворку, няма нічога, што не мела б свайго "але". Свабода друку паспрыяла з'яўленню некалькіх выданняў, што сапраўды ўплываюць на грамадскую і эстэтычную думку. Аднак колькі малапісьменных, бульварнага кшталту газетак і друкаваных лёткаў з'явілася засмечваць галовы грамадзян Беларусі. Праўда, гэтая бяда ў нас агульная з усім светам: наступ масскультуры (самага нікчэмнага ўзору), засілле парнаграфіі, дэтэктыў --ледзь не як жанр веку. Ёсць і сваё, уласнае дзіва. І ў старых выданнях, і ў новых узмацнілася арыентацыя на пэўнае кола пішучых. З'ява нібыта нармальная -- так было заўсёды ў практыцы друку. Аднак, калі згадаць інфляцыю і тое, што існуюць выданні або за кошт бюджэтных датацый, або з ласкі спонсараў, а спонсары адукавання, дасведчаныя -- дзе яны? Дык відавочна, што талент у рэспубліцы Беларусь "па-за групоўкай" застанецца і па-за друкам. (Уласнае выданне не адчыніш).

А нованароджаныя бізнесмены з іх кніжнай прадукцыяй адразу ўзялі курс на чытача з інтэлектуальным узроўнем людаедкі Элачкі і схільнасцямі прафесійнага гангстэра. Да таго ж -- упадабаўшы позу гаспадароў жыцця, нуварышы ад кніжнага бізнесу ўзнялі ашалелы віскуцень супраць беларускай мовы. І беларушчыны. Маўляў, ратуйце, забіваюць расейскую культуру. Што ж датычыць рускай культуры і ўвогуле замежных культур, дык на Беларусі да ўсіх заўсёды ставіліся з пашанай і павагай. Да ўсіх -- акрамя сябе. Парадокс. Хаця хістанні ў рэчышчы ўсходнеславянскай традыцыі -- ці ганіць, ці ўзносіць да нябёс -- ёсць. І ў літаратуры, і ў навуцы, і ў мастацтве. Зноў -- ілюзіі, якія робяць эталонам, ідэальным увасабленнем існай дадзенасці. Знаёмы пафас, хранічны. І хранічная кан'юнктура. З новымі арыенцірамі. І як хранічная з'ява -- мітусня ў пражэктарах грамадскага і мастацкага жыцця асоб, якім не тое што таленту, але і кволенькіх здольнасцяў бракуе. І -- часам гэта вельмі ж знаёмыя асобы, мы іх бачылі і раней, пад іншымі штандарамі, з іншымі лозунгамі. Ажно з той жа палымнеючай прагай -- быць навідавоку, на слыху, падтрымліваць сваё ўласнае вечнае prosperity.

Сапраўды, як не згадаць мудрую з наймудрэйшых з кніг -- "не прыткім даецца ўспешлівы бег, не харобрым -- перамога, не мудрым --хлеб, і не ў разумных -- багацце, і не спраўным -- благасць, але час і выпадак для ўсіх".

Не, не навучыла нікога гісторыя. Светлыя розумам Вальтэры і Дзідро даюць мудрыя ідэі, самаахвярныя Рабесп'еры кладуць свае галовы на гільяціну, а ўрэшце з'яўляюцца лейтэнанты артылерыі, фюрэры ці сын юрыста і ўкраінкі.

І ўсё ж... "Выратуецца той, хто ратуе сам". Ратуе дзеяннямі, учынкамі. Словамі, што імкнуцца наблізіцца да таго Слова, што было "на пачатку", наблізіцца да "Святла сапраўднага".

Тыя, хто пазначаў і пазначае вышыні духу нацыі, яе сумленне, яе эстэтычны, мастацкі ўзровень. Тыя, хто не даў сысці з літаратурных старонак лірыцы і рамантыцы, хто ішоў на ўзроўні жыцця і над узроўнем жыцця. Тыя, хто, выкінуўшы штандар колеру выкліку, віхурна ўварваўся ў літаратуру з памкненнямі, якія ў сваю пару сфармуляваў Андрэ Мальро: "Мастацтва -- не падпарадкаванне, мастацтва -- заваяванне".

Ці ж матэрыялізуюцца ў справе тыя ідэалы, што яшчэ засталіся? Ці пазбавімся мы ад ілюзій? Ці вытрывае Слова? І разам са словам -- будова Натуры? І -- працягнецца "бляск цудаў"? І подых кветак будзе трывожыць істот? І, можа, тады жывая душа чалавечая -- не загіне?

**Ала СЯМЁНАВА.**

ПАЎСТАНЕ ВІЦЕБСКАЯ ЎВАСКРАСЕНСКАЯ РЫНКАВАЯ ЦАРКВА

# ЦВЁРДЫМІ РУКАМІ І ТРАПЯТКІМІ СЭРЦАМІ

Урачыстыя гукі "Gloria" Вівальдзі цалкам запоўнілі невялікі пакой. Белы вэлюм покрыва паступова папоўз уверх, і вачам прысутных адкрылася зграбная постаць прыгажуні царквы. У трапяткім святле свечак хвалістыя выгіны гзымсаў і валют, глыбокія светлацені калон, складаныя профілі купалаў ды франтонаў магічным чынам прыкавалі да сябе захопленыя позіркі. Гучала ўзвышаная музыка часоў барока, і на вачах прысутных адбываўся цуд уваскрэсення страчанай прыгажосці.

Так пачыналася акцыя прэзентацыі эскізнай прапановы аднаўлення Уваскрасенскай Рынкавай царквы, якая адбылася ў Віцебску напярэдадні Велікодных святаў 29 красавіка. Спецыяльна дзеля гэтай падзеі архітэктарамі МДП "Віцебскпраектрэстаўрацыя" быў выкананы макет храма. Уваскрасенская царква, узарваная па загаду гарадскіх уладаў у 1936 годзе, зноў набыла сваё матэрыяльнае ўвасабленне, вярнулася ў культуралагічную прастору Віцебска, усёй Беларусі.

Сваю гісторыю мураваная Віцебская Уваскрасенская Рынкавая царква адлічвае ад XVIII стагоддзя. Драўляная царква Уваскрэсення Хрыстова "ў месце Віцебскім у рынку за пасадам Узгорскім" была вядома па пісьмовых крыніцах яшчэ з пачатку XVII стагоддзя. Узведзеная на галоўнай адміністрацыйнай і гандлёвай плошчы горада, мураваная Уваскрасенская царква дадатковым гарманічным акордам уплялася ў сапраўдную сімфонію адметнага архітэктурнага ансамбля, утворанага вертыкалямі гарадской ратушы і касцёла ксяндзоў-бернардзінаў. Сродкі на будаўніцтва царквы ахвяраваў віцебскі купец Мікалай Смык. На адным з планаў горада канца XVIII стагоддзя храм так і быў акрэслены: "Смыкова царква".

На сёння яшчэ застаецца невядомым імя архітэктара -- аўтара праекта храма. Аднак пасля выканання праектных прац па рэканструкцыі царквы з упэўненасцю можна сцвярджаць, што гэты чалавек вызначаўся адметным веданнем свайго рамяства, меў прафесійную адукацыю еўрапейскага ўзроўню. Усе прапорцыі царквы падпарадкоўваліся старой матэматычнай логіцы і грунтаваліся на выкарыстанні гармоніі суадносін залатога сячэння. Храм будаваўся для вернікаў дамінуючага на той час у Віцебску уніяцкага веравызнання і ў мастацкіх адносінах нёс на сабе выразныя прыкметы нацыянальнага густу і стылю -- архітэктуры так званага віленскага барока.

Афіцыйнай датай заканчэння будаўніцтва царквы лічыцца 1772 год. Сярод 16 уніяцкіх прыходскіх храмаў, што існавалі ў горадзе ў канцы XVIII стагоддзя, Уваскрасенская Рынкавая царква займала галоўнае месца і мела статус сабornай і кафедральнай. У 1834 годзе яна была перададзена ў праваслаўнае ведамства і праз сем гадоў перабудавана ў адпаведнасці з густамі новых гаспадароў. Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года царква была зачынена, а ў хуткім часе і ўвогуле невукамі ад улады далучана да небыцця.

Шлях да вяртання Віцебску аднаго з яго самых дасканалых помнікаў архітэктуры таксама ўжо мае сваю гісторыю. Першай акцыяй, якая прыцягнула ўвагу шырокай грамадскасці да праблемы аднаўлення Уваскрасенскай Рынкавай царквы, стаўся дабрачынны канцэрт, праведзены ў драмтэатры імя Я. Коласа яшчэ ў 1988 годзе. Тады ж у адным з ашчадных банкаў Віцебска быў адчынены разліковы рахунак для ахвяраванняў на аднаўленне храма. Пазней Упраўленнем па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Беларусі былі выдаткаваны грошы на вывучэнне гісторыі царквы, археалагічныя даследаванні ж падмуркаў, папярэднія праектныя працы. Комплекс гісторыка-археалагічных даследаванняў храма быў выкананы археолагам МДП "Віцебскпраектрэстаўрацыя" Ігарам Цішкіным, ён жа ўзначаліў і зарэгістраваную ў 1992 годзе уніяцкую суполку, якая ўжо атрымала афіцыйны дазвол на аднаўленне Уваскрасенскай царквы. На ахвяраванні, адлічаныя ад правядзення тэатральнага марафона, наладжанага ў мінулым годзе артыстамі-коласаўцамі, былі



зроблены чарцяжы эскізнай прапановы аднаўлення храма.

Надзеі на паспяховае прадаўжэнне далейшых прац сёння, на жаль, трапілі ў адваротную залежнасць ад тэмпаў росту інфляцыі і эканамічнай неўпарадкаванасці краіны. На дапамогу дзяржавы разлічваць амаль што не выпадае, а віцебскія прадпрымальнікі, як паказала акцыя прэзентацыі, зараз значна больш заклапочаны ўласнымі справамі, чым дапамогай у вырашэнні праблем культуры: з вялікага шэрагу запрошаных на імпрэзу прыйшлі толькі некалькі чалавек. Воляю абставін далейшы шлях да аднаўлення храма аказаўся шчодра азздоблены цернямі...

Аднак заканчваць артыкул на такой сумнай ноце няма падстаў. У час, калі скончыліся ўсялякія матэрыяльныя сродкі на аднаўленне храма, цалкам на добраахвотных пачатках, у вольны ад працы час чатырма архітэктарамі: Ігарам Роцькам (навуковы кіраўнік праекта), Аляксандрам Вашкевічам, Іванам Матарасам і Аляксандрам Міхайлюковым быў выкананы макет Уваскрасенскай царквы. Дасканалае мастацтва дойлідаў мінулага было паўторана цвёрдымі рукамі і трапяткімі сэрцамі дойлідаў сучаснасці. Спецыялісты ведаюць, якога вялікага ўкладання працы, часу і душы патрабуюць такія рэчы. Сам факт з'яўлення макета Віцебскай Уваскрасенскай царквы сведчыць аб тым, што нягледзячы на ўсе цяжкасці сённяшняга дня, яшчэ ёсць каму ісці па шляху да храма. А гэта ўжо выразная адзнака таго, што Беларусь жыве!

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: макет Віцебскай Уваскрасенскай Рынкавай царквы. Маштаб 1:50.**

**Фота Л. ЛЯШЧОВАЙ.**

# НЕ ЧАПАЙЦЕ НАШАЙ СІМВОЛІКІ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Няхай нам даруюць тыя ветэраны вайны і працы, якія з'яўляюцца патрыётамі сваёй краіны, паважаюць яе гістарычную сімволіку: герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Наш папрок і словы сорому і агіды гучаць у адрас меґавіта "движенцев" з НДБСПСС і тых, хто маўкліва патурае шабашу, які гэтая групоўка ўчарашніх уладароў нашых душ раз-пораз усчынае ў такой спакойнай краіне, якой заўсёды была Беларусь, за што яе і паважаюць у свеце!

...Але ці будуць яе паважаць у вольным свеце, калі ў ліпені з флагштоку ААН у Нью-Ёрку будзе зняты бел-чырвона-белы сцяг, а на яго месцы з'явіцца сцяг чырвоны ці чырвона-зялёны, сцяг камуністычнай дыктатуры?! Удумайцеся, спадары дэпутаты Вярхоўнай Рады Беларусі, перш чым згадзіцца на нечарговую сесію, якая павінна будзе зняважыць сябе ганьбай, бо калі яна адбудзецца, можна не сумнявацца, што справа таварышоў-змагароў возьме гару -- у сённяшнім парламенце краіны няма процістаяння паўзучаму рэваншызму за аднаўленне ў Беларусі камуністычнага рэжыму, які існаваў да 1991 года. Таму не "лезце ў гісторыю" вось такім чынам, бо народ вам ніколі не даруе гвалту над яго гістарычнай сімволікай, з якой беларусы змагаліся яшчэ ў час Грунвальдскай бітвы з крыжакамі!..

...А вас, грамадзяне, якія напісалі гэтае "пісьмо", патрабуючы змены нацыянальнай сімволікі, мы заклікаем адумацца і забраць яго назад, бо калі сапраўды сімволіку адбяруць дэпутаты-камуністы і спачуваючыя ім, не будзе ў вас і сапраўднага свята перамогі над фашысцкай Германіяй -- патрыёты вам не даруюць здраду нашым нацыянальным сімвалам, можаце ў гэтым не сумнявацца!!! Патрэбна не канфрантацыя, не нагнятанне ў грамадстве напружанасці, да чаго штурхаецца народ краіны вы, якім не прывыкаць да чалавечай крыві, а ўзаемапавага старога і новага, адраджэння і нарадзіўшагася. Рукі прэч ад гербу "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга!!! Выходзьце святкаваць пад сваімі чырвонымі і чырвона-зялёнымі сцягамі, з партрэтамі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, Чыкіна, Новікава, з сярпамі і малаткамі, ніхто вам гэтага не забараняе, але не лезце да нашай сімволікі -- нам яна дарагая не менш, чым ваша вам!!!

Заклікаем усе беларускія патрыятычныя арганізацыі ў краінах блізкага і далёкага замежжа падаць свае галасы пратэсту супраць магчымага здзеку над гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам. Звяртаемся да беларускага народа: не дайце гэтым старым крыжакам, якія дажываюць свой век і не ведаюць, што твораць, чарговы раз усчыніць гвалт над гісторыяй Беларусі!!!

РУКІ ПРЭЧ АД "ПАГОНІ" І БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАГА СЦЯГУ!

ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ І СУВЕРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ!!!

**Члены гурта беларускай культуры "Зорка Венера".**
Украіна.



**Гліняныя цацкі-свістулькі -- пеўнікі, конікі, зайчаняты, зробленыя рукамі студыйцаў з Салігорска, падабаюцца дзятве і дарослым. Юныя майстры атрымалі граматы і медалі ў Маскве, Мазамбіку, Анголе, Польшчы, Германіі, дзе беларускія дзеці дэманстравалі свае вырабы.**

**Вось ужо дзесяць гадоў пры Салігорскім цэнтры дзіцячай творчасці працуе студыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Скарбонка". Кіруе ёю страсны энтузіяст і прапагандыст беларускіх народных рамёстваў Мікалай Пратасеня. Сваю любоў да нацыянальнага мастацтва ён перадае і студыйцам. Юныя салігорцы з задавальненнем наведваюць заняткі.**

**НА ЗДЫМКУ: заняткі праводзіць Мікалай ПРАТАСЕНЯ.**

**Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 794. Падпісана да друку 6. 6.1994 г.